№ 46 (739) 14 снежня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я Б Е Л А Р У ... Я Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае ... ...тылнёва, у серады



## Год пасля Плошчы

Рашэнні, прынятыя ў 2010-м, дагэтуль б'юць па эканоміцы краіны. Старонка 3.

# Траянскі газ

Расія ўтрая **падымае заробкі на «Белтрансгазе»** і перасаджвае мэнэджараў на «Мерсэдэсы». **Старонка 5.**




**Над будынкам «Белтрансгаза» ў Мінску цяпер лунаюць сцягі «Газпрама».**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Тэндэнцыі**

## Ярмошыну перапрызначылі

**Старшынька ЦВК** захавала сваю пасаду.

Лідзіі Ярмошынай ужо 58 гадоў. Яна ўжо тры гады як магла варыць боршч на пенсіі. Тэрмін яе паўнамоцтваў таксама скончаўся ў студзені 2012-га. Тым не менш, 13 снежня Лукашэнка падпісаў новы ўказ аб прызначэнні сябраў ЦВК. І Ярмошына, і яе намеснік Лазавік засталіся.

Ярмошына ўзначаліла выбаркам у 1996-м, калі пасаду забралі ў Віктара Ганчара, якога пасля выкрадуць. За гэты час пад наглядам Ярмошынай адбыліся многія выбары і рэферэндумы. Ніводнае з гэтых галасаванняў не было прызнанае еўрапейскімі структурамі справядлівым. Ярмошына раз за разам абвяшчала лічбы «элегантных перамог» Лукашэнкі і іншых прадстаўнікоў улады.

Сама жанчына неаднаразова гаварыла, што яна «ў камандзе прэзідэнта». Падчас выбараў-2010 адзначылася фразай, што жанчыны не павінны былі ісці на Плошчу, а варыць дома боршч.

Ярмошына адной з першых была ўнесеная ў спіс неўязных у краіны ЕС, якія разам з Шэйманам, Навумавым, Сіваковым і Паўлічэнкам не пакідала нават у час лібералізацыі і пацяплення адносінаў з Еўропай.

**Зміцер Панкавец**

Ад 2012 года газета ў кіёсках падаражэе да 4000 рублёў. **Хто падпісваецца — выйграе.**

## Апошні тыдзень падпіскі

**Гучныя справы**

### «Марыянеткі, будзьце праклятыя»

Азаронак і Палудзень: двум сілавікам надзелі кайданкі. **Старонка 3.**



**Палітыка**

### Супраць жуликов и воров

Расія даўно не бачыла такіх буйных акцый пратэсту. **Старонка 4.**



**Не быць скотам**

### Давыдзька апусціўся

На БТ выйшаў брудны матэрыял пра Саннікава і Дашкевіча. **Старонка 7.**



**VIP**

### Гадзіннік Чыжа каштуе 400 тысяч даляраў

Бізнэсмэн носіць плацінавы Ulysse Nardin. **Старонка 8.**



**Каханне і сэкс**

### «Беларускі баяцца вялікіх грудзей»

Гутарка з пластычным хірургам Алегам Стасевічам. **Старонка 15.**



# 2 студзеня — на работу

**Перанос працоўных дзён** на Новы год: пакуль не вырашана.

Сёлета ўсе навагоднія святы — як Нараджэнне Хрыстова ў каталікоў і праваслаўных, так і Новы год — прыпадаюць на выхадныя. Адпаведна, буднія дні застануцца працоўнымі, і ўжо 2 студзеня краіна павінная выйсці на працу.

Пакуль Савет міністраў ніяк не змяніў працоўнага графіка. Шмат хто спадзяецца, што адзін з выхадных перанясуць на 2 студзеня. Інакш гэты панядзелак шмат каму будзе цяжкі. Адны праводзяць Новы год за сталом, іншыя ў гэты дзень адведваюць родных.

Сяргей Гезгала



# Эканаміст Крук: «Расійскіх крэдытаў хопіць на 1,5 года»

Эксперты і палітолагі лічаць, што варта паглыбляць не санкцыі, а **супрацоўніцтва з Беларуссю**.



Зміцер Крук.

Да такой думкі прыйшлі беларускія эканамісты і палітолагі падчас канферэнцыі «Трансфармаванне Беларусі: шляхі дасягнення», арганізаванай у Брусэлі Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў і «Офісам за дэмакратычную Беларусь». Запрашэнне на сустрэчу атрымаў і віцэ-прэм’ер Сяргей Румас, аднак у тыя дні ён паляцеў у Барселону глядзець футбол. Больш за тое, на сустрэчу не з’явіўся нават ніхто з беларускага пасольства. Такое ўражанне, што дыпламатам строга забаранілі паказвацца там.

Пазіцыю Еўрасаюза на сустрэчы агучыў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі суседства Штэфан Фюле. Ён паранейшаму перакананы, што супрацоўніцтва з беларускім рэжымам магчымае толькі пасля выканання некалькіх умоў, сярод якіх прагрэс у правах чалавека, а таксама вызваленне і рэабілітацыя ўсіх палітычных зняволеных. «Незадаволеных усё больш, нават у беларускім урадзе. Але краіна большая за ўрад, — растлумачыў еўрачыноўнік. — Мы працягнем супрацоўніцтва з усімі, хто падтрымлівае мадэрнізацыю Беларусі».

На думку дырэктара Беларускага эканамічнага даследчаадукацыйнага цэнтра Паўла Данейкі, вяртанне да папярэдняй эканамічнай мадэлі немагчымае. «Рэформы, якія раней праводзіліся для прыватнага сектару, будуць перанесены на дзяржаўны. Гэта прывядзе да змены ролі самой дзяржавы: ад падаўляльніка да стваральніка канкурэнцыі», — верыць ён.

Эканаміст Зміцер Крук выказаў меркаванне, што новыя пагадненні з Расіяй даюць магчымасць адкласці вырашэнне праблемы на будучыню і адцягнуць рэформы. «Грошай, што маюць быць атрыманыя ад Расіі, хопіць максімум на паўтара года, і тое пры спрыяльных вонкавых умовах, — прагназуе ён. — Таму вострая фаза крызісу можа паўтарацца яшчэ неаднойчы».

Ягор Марціновіч, Брусэль

Падвышэнне заробкаў у БДУІР, альбо Як з павелічэннем акладу змяншаецца рэальная зарплата

Пошта Рэдакцыі — **старонка 12**.

# Новыя дзіцячыя кнігі ад Prastora.by




Напярэдадні Калядаў крама **prastora.by** прапануе добрую падборку дзіцячай літаратуры.

Інтэрнэт-крама прапануе падборку цудоўных дзіцячых кніг на беларускай мове — ад літаратуры для самых маленькіх да тых, якія прыйдуцца даспадобы вучням сярэдняй школы. Сярод гэтых кніг ёсць і дзве новыя: «Казачкі, баечкі, вершыкі» Алега Старынчыка і «Майстар Рукша» Юрыя Усціновіча.

Алесь Квіткевіч, дырэктар прадпрыемства BelTonMedia, якая валодае крамай Prastora.by, расказаў пра навінкі:

— Алег Старынчык — прадпрымальнік, займаецца акрылавымі фарбамі. Аднак вось вырашыў напісаць дзіцячую кнігу казак і вершаў, якую будзе цікава чытаць і дзецям, і дарослым. Новы, але шматабяцальны аўтар. А кніга выдатнага пісьменніка Юрыя Усціновіча, апроч таго, што гэта вельмі добрая кніга, шыкоўна ілюстраваная. У дадатак мы пазбіралі ўсе запасы класічнай дзіцячай літаратуры, бо няма лепшага падарунка малому, чым кніга.

ЮУ

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Не забудзьцеся падпісацца на паўгоддзе!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад’езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Пачалася падпіска праз «Белпошту»** на 1-е паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

**Сцісла**

**Міхалевіча затрымалі ў аэрапорце Варшавы**

Аднак адразу вызвалілі. Аказалася, што польскія памежнікі мелі экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі ў спісах Інтэрпола на затрыманне. Разабраліся, што Міхалевіч не бандыт, а палітэмігрант, і праз тры гадзіны адпусцілі. Справу трымаў на кантролі асабіста міністр замежных справаў Польшчы Сікорскі.

**Гарвыканкам дазволіў канцэрт «Крамбамбулі» ў Мінску**

Лявон Вольскі пакажа сваю новую праграму «Drabadzi-drabada». Канцэрт адбудзецца 11 лютага ў клубе Re:Public.

**Змены ў руху цягнікоў Мінск-Варшава**

Цяпер яны прыбываюць на станцыю «Варшава-Гданьская» і адтуль жа выпраўляюцца ў Беларусь. Змены выкліканыя маштабнай рэканструкцыяй чыгуначных станцый польскай сталіцы.

**Бойня ў Льежы**

Невядомыя закідалі прыпынак з людзьмі гранатамі. Ёсць забітыя і параненыя. Гэта самы значны тэракт у Еўропе сёлета пасля трагедый у Мінску і Осла.

МБ

**Трохі лірыкі**

Алесь Кіркевіч.
**Святло на дне**

Як хочаш жыць — шукай сабе прытулак.
Як хочаш быць — рабі ўсё як раней.
Ты з вуліцы ўбягаеш у завулак,
Агню шукаеш там, дзе менш агней.

Няма бяспекі у тваёй кватэры,
А злодзей у пагонах слухае
любы пяшчотны гук,
Ужо з надзеяй не глядзіш на дзверы
І ведаеш: не хопіць моцы рук...

Як зможаш — пакладзі жыццё на карту.
Як зможаш — запалі свячу ў акне.
Хаця святла свячы той ты не варты,
А варты той, хто запаліў свячу
на самым дне.

*Гродна*

**Самае чытанае на nn.by за 7—13 снежня**

1. «Сорамна, што я там працую»: Супрацоўнікі БТ крытыкуюць рэжым у фэйсбуку
2. Фотафакт: Юрый Чыж носіць гадзіннік, даражэйшы за $400 тысяч
3. Фотафакт: Туфлі Ермаковай — нямецкай фірмы Caprice
4. Дзясяткі тысяч у Маскве патрабавалі змены рэжыму
5. Як расстрэльвалі невінаватых
6. Мілер падняў заробкі ў «Белтрансгазе» ўтрая, перасаджвае работнікаў на «Мерсэдэсы»
7. Расійскія тэлеканалы далі аб’ектыўныя рэпартажы з мітынгу першай навіной + відэасюжэты
8. Затрыманы намеснік міністра ўнутраных справаў. Яўген Полудзень падазраецца ў злоўжыванні ўладай
9. Давыдзька апусціўся
10. «Рабіць інтымны пірсінг часам прыходзяць сямейныя пары»

# Год пасля Плошчы

Рашэнні, **прынятыя ў 2010-м**, дагэтуль б'юць па эканоміцы краіны.

З часу прэзідэнцкіх выбараў-2010 мінуў год. Пра вынікі галасавання, агучаныя старшынёй ЦВК Лідзіяй Ярмошынай, ніхто не згадвае, як не згадвалі тады. Увага грамадства надоўга была прыкавана да вечаровых падзеяў на плошчы Незалежнасці ў Мінску і іх наступстваў. Жорсткі разгон мірнай дэманстрацыі скончыў кароткі перыяд лібералізацыі, які некалькі месяцаў дадаваў аптымізму прадэмакратычна настроенай частцы грамадства.

Такую вялізную колькасць беларусаў на Плошчы не чакалі ні ўлады, ні, здаецца, самі апазіцыйныя кандыдаты. Мора людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі расцяклося па праспекце Незалежнасці да гарызонту — гэта быў самы яркі момант леташняй прэзідэнцкай кампаніі.

### «Масавыя беспарадкі» сямі кандыдатаў

Эйфарыі натоўпу не замінаў нават той факт, што за пару гадзін да шэсця ў цэнтры Мінска быў збіты Уладзімір Някляеў. Апоўначы прыйшла чарга і астатніх палітыкаў. Некалькі разбітых вокнаў Дома ўрада былі расцэненыя як «масавыя беспарадкі», і супраць людзей са сцягамі кінулі сотні спецназаўцаў. Фота і відэа збіцця дэманстрантаў абышлі інфармацыйныя агенцтвы свету.

Вынік пратэсту шакаваў — 639 затрыманых. У офісы незалежных СМІ і праваабарончых цэнтраў, палітычныя штабы прыйшлі з ператрусамі. А затрыманне адразу шасці кандыдатаў у прэзідэнты стала сусветным рэкордам. Апроч названага вышэй Някляева былі схопленыя Андрэй Саннікаў, Мікола Статкевіч, Дзмітрый Ус, Алесь Міхалевіч, Віталь Рымашэўскі. А Рыгор Кастусёў і Яраслаў Раманчук выйшлі на свабоду толькі пасля гутарак са спецслужбістамі.

### Ніводнага апраўдання

Галоўным вынікам разгону Плошчы стала атмасфера страху ў грамадстве, якая трымалася паўгода, пакуль не актывізаваўся рух «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі». Але таксама ўзнялася беспрэцэдэнтная хваля салідарнасці з вязнямі.

Яшчэ два дзясяткі апазіцыйных актывістаў выехалі за мяжу, асцерагаючыся крымінальнага пераследу.

Вясна прайшла пад знакам палітычных працэсаў. Па справе аб масавых беспарадках праходзіла больш за 60 чалавек, і ніводнага апраўдальнага рашэння вынесена не было. Дагэтуль за кратамі застаюцца Андрэй Саннікаў, Мікола Статкевіч і Зміцер Бандарэнка, а таксама Зміцер Дашкевіч і Эдуард Лобаў, затрыманыя напярэдадні выбараў.

### Як палітыка зачапіла эканоміку

Некаторыя беларусы рабілі выгляд, што не заўважаюць паслявыбарчых зменаў у грамадска-палітычным жыцці, а вось эканамічны крызіс ударыў па кожным. Залагоджваючы насельніцтва перад выбарамі, Лукашэнка падняў заробкі настолькі, што фінансавая сістэма не вытрымала напружання. Вынікам стала трохкратная дэвальвацыя рубля і адпаведны рост цэнаў.

У выніку Расія ў апошні момант працягнула-такі руку фінансавай дапамогі. І яшчэ мацней прыцягнула Беларусь у свае абдымкі. Гэта дало Лукашэнку магчымасць ізноў адмовіцца ад пераводу краіны на еўрапейскія стандарты жыцця і аднавіць будаўніцтва «сацыяльна арыентаванай дзяржавы», хоць і не такой шчодрай, як год таму.

**Ягор Марціновіч**



Плошча-2010 была магутным выбухам пратэсту

### Як змянілася краіна пасля Плошчы

| Палітычныя характарыстыкі | Снежань 2010 | Снежань 2011 |
|---|---|---|
| Кіраўнік дзяржавы | Аляксандр Лукашэнка | |
| Прэм'ер-міністр | Сяргей Сідорскі | Міхаіл Мясніковіч |
| Старшыня Нацбанка | ПётрПракаповіч | Надзея Ермакова |
| Адносіны з Расіяй | Інфармацыйныя войны | Інтэграцыя і абдымкі |
| Адносіны з ЕС | Лагодныя | Нядобразычлівыя |
| Колькасць палітвязняў | 1 (Мікола Аўтуховіч) | 13 |
| **Эканамічныя характарыстыкі** | | |
| Курс даляра | 3 100 | 8 500 |
| Сярэдні заробак, прыкладна | $500 | $300 |
| Стаўка рэфінансавання | 10,5% | 45% |
| Інфляцыя (за год, прыкладна) | 10% | 110% |

**Апытанне**

### Што б вы змянілі ў сваім плане на Плошчу-2010?

На пытанне «Нашай Нівы» адказалі **ўдзельнікі снежаньскіх пратэстаў**.

**Уладзімір Някляеў**, «Гавары праўду»: «Я зыходзіў з таго, што ўлады не дапусцяць тых сілавых брутальных дзеянняў, якія былі ўжытыя да ўдзельнікаў мірных акцый пратэсту. Гэта і была асноўная памылка».

**Рыгор Кастусёў**, Партыя БНФ: «Па-першае, я б настойваў на тым, каб супольныя рашэнні кандыдатаў выконваліся больш дакладна і перад Плошчай, і на Плошчы. Па-другое, я б зрабіў усё магчымае, каб адсекчы ўсіх правакатараў, якія з'явіліся ў нашых шэрагах».

**Ірына Халіп**, жонка кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава, грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь: «Трэ было заставацца на Кастрычніцкай і чакаць вынікаў галасавання, а пасля разгортваць лагер. Тым больш, я ведаю, усё неабходнае было закуплена. Другі варыянт — ісці ў «падарожжа» па горадзе, каб людзі не замерзлі, каб быў рух. Але не засяроджвацца на плошчы Незалежнасці».

**ЯМ**

### Кіно пра Плошчу-2010

**«Беларуская мара»**

Рэжысёрка — Кацярына Кібальчыч. У фільме расказваецца гісторыя жыцця маладога чалавека з Мінска, які 18 гадоў жыве ў краіне «апошняга дыктатара Еўропы».

**«Звычайныя выбары»**

Рэжысёр — Юрый Хашчавацкі. Стужка — працяг нашумелых фільмаў «Звычайны прэзідэнт» (1996) і «Плошча» (2007). У ёй Хашчавацкі не адмаўляецца ад ранейшага жанру і працягвае свой уяўны дыялог з Лукашэнкам.

**«Плошча. Жалезам па шклу»**

Прапагандысцкае «расследаванне», знятае Агенцтвам тэлевізійных навінаў. Фільм, які агучваў кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька, вылівае памыі на прадстаўнікоў апазіцыі.

**ЯМ**

# «Марыянеткі, будзьце вы праклятыя»

Адразу два сілавікі найвышэйшага рангу трапілі ў цэнтр гучных крымінальных справаў.

### Ігар Азаронак

Пра арышт камандуючага Вайскова-паветранымі сіламі генерала-маёра Азаронка стала вядома 24 снежня, праз некалькі дзён пасля Плошчы.

Натуральна, што гэта спарадзіла самыя розныя чуткі. Маўляў, Азаронак выказаўся супраць сілавога разгону дэманстрантаў.

Міністр унутраных справаў Анатоль Куляшоў даў афіцыйнае тлумачэнне крымінальнай справе: Азаронак папаліўся на атрыманні адкатаў пры заключэнні кантрактаў. Куляшоў зазначыў, што гэта ўвогуле распаўсюджанае парушэнне сярод чыноўнікаў.

Пытанні пачалі ўзнікаць зноў, калі Вайсковая калегія Вярхоўнага суда вырашыла разглядаць справу Азаронка за зачыненымі дзвярыма. Ва ўсіх краінах такія працэсы прайшлі б адкрытымі для грамадскасці і СМІ. Тады журналісты маюць магчымасць пераправяраць матэрыялы следства і супастаўляць іх з наяўнымі фактамі.



**Генерал-маёр Ігар Азаронак асуджаны на 9 гадоў турмы з канфіскацыяй.**

У выніку Азаронак быў прызнаны вінаватым «у прыманні для сябе матэрыяльных каштоўнасцяў у асабліва буйным памеры, прадстаўленых выключна ў сілу займанага ім становішча за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, што ўваходзяць у яго кампетэнцыю».

Што стаіць за гэтай канцылярскай фармулёўкай усё яшчэ невядома. Прысуд — 9 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці. Цікавыя сведчанні пра кіраўніка ПВА пакінуў старшыня АГП Анатоль Лябедзька, які сядзеў з ім разам у СІЗА. «У «амерыканцы» Азаронак паводзіў сябе абсалютна прыстойна. Чалавек ён годны, і калі там з'явіліся гэтыя «маскі», з ім узнікалі вялікія праблемы, бо ён проста адмаўляўся падпарадкоўвацца незаконным загадам», — кажа А.Лябедзька.

Па вынясенні прысуду Азаронак толькі паспеў гукнуць: «Марыянеткі, будзьце вы праклятыя».

### Яўген Полудзень

Арыштаваны намеснік міністра ўнутраных справаў Яўген Полудзень. Фармулёўка абвінавачання ў падобных выпадках стандартная — злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.

Адзначаецца, што Полудзень быў адным з найбліжэйшых паплечнікаў дзейнага міністра ўнутраных справаў Анатоля Куляшова. Які нават перацягнуў Полудня з сабой з Гомельскай вобласці.

У МУС Яўген Полудзень загадваў упраўленнем грамадскай бяспекі. То бок пад ягоным кантролем праходзілі разгоны вулічных акцый. Не дзіўна, што міліцыянт пад нумарам 82 трапіў у спіс неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза.

Як піша газета «Народная воля», Полудня ў доме на ўскраіне Мінска бралі людзі з аўтаматамі.

Дарэчы, сам міністр унутраных справаў цяпер знаходзіцца ў бальніцы. В.а. міністра з'яўляецца Алег Пякарскі. Гэта ўжо не першы раз, калі гнеў вышэйстаячых абрынаецца на міліцыю.

Тры гады таму Лукашэнка зладзіў публічную «лупцоўку» тагачаснаму міністру Навумаву, а ягоных намеснікаў Шчурко і Філістовіча абвінаваціў у карупцыі, у незаконным будаўніцтве катэджаў. Праўда, ім пашанцавала болей, чым Полудню. У турму Філістовіч і Шчурко не трапілі.

**Зміцер Панкавец**

# Супраць жуликов и воров

**На Балотную плошчу Масквы выйшла каля 40 тысяч чалавек.**

Праз год пасля беларускай Плошчы не вытрымалі расіяне. Парламенцкія выбары ва ўсходняй суседцы выклікалі вялізную незадаволенасць.

Эпоха інтэрнэту зрабіла магчымым назіраць фальсіфікацыі ў жывым эфіры. Тым не менш, галасы ў Расіі ўсё ж лічылі. Ідэя апазіцыі была простай — яна заклікала выбарцаў галасаваць хоць за каго, абы не за «Адзіную Расію».

І гэта дало свой вынік. Нават па афіцыйных звестках партыя ўлады атрымала менш за 50% галасоў. І гэта з улікам масавых накрутак. Пры гэтым на некаторых участках, дзе назіральнікі кантралявалі працэс, «адзінаросы» апынаюся на апошнім месцы. Што яскрава сведчыць пра стомленасць ад палітыкі Пуціна — Мядзведзева.

Першыя пратэсты з патрабаваннем правесці новыя выбары прайшлі 4 снежня, калі яшчэ не зачыніліся ўсе выбарчыя ўчасткі. Яе правяла ліберальная «Салідарнасць» (Барыс Нямцоў) і левварадыкальная «Іншая Расія» (Эдуард Лімонаў).

На наступны дзень колькасць удзельнікаў ужо лічылася не сотнямі, а тысячамі. На Чыстых Прудах патрабавалі вярнуць народу тое, што скралі, — выбары. Фактычна Расія падхапіла словы Міколы Статкевіча, прамоўленыя год таму ў нас.

Паралелі можна працягваць далей: як беларуская апазіцыя патрабуе адстаўкі старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай, так расійскія пратэстоўцы настойваюць на сыходзе Уладзіміра Чурава.

Расійскія ўлады выкарыстоўваюць таксама падобныя тэхналогіі. У Мінску акцыі апазіцыі адпраўляюць на балоцістую плошчу Бангалор, у Маскве — проста на Балотную. Праўда, яна зусім побач з Крамлём.

Найбольш масавы пратэст адбыўся 10 снежня. Нават па ацэнках міліцыі там было 25 тысяч, некаторыя дэманстранты ж гаварылі пра 100 тысяч.

«Жулікі і злодзеі, вярніце выбары», — скандзіравалі дэманстранты. Спецназ не ўжываў сілы супраць удзельнікаў, усё адбылося мірна. У адрозненне ад пяпэрэдніх пратэстаў, за якія яшчэ адбывае 15-суткавае пакаранне найбольш яркі прадстаўнік новага палітычнага пакалення блогер Аляксей Навальны.

Ён мае вялікія перспектывы стаць супернікам Пуціна на прэзідэнцкіх выбарах. У адсутнасць Навальнага рэй на акцыі вялі эсэр Гудкоў, пісьменнік Акунін, былы прэм'ер Касьянаў, ліберал Нямцоў, абаронца Хімкінскага лесу Чырыкава, дысідэнт Арлоў, тэлевядучы



**Ідэя Навальнага простая — галасуйце хоць за каго, абы не за «Адзіную Расію» »**

**Масква даўно не бачыла такіх масавых мітынгаў.**

Парфёнаў, нацыяналіст Крылоў.

Прэзідэнт Мядзведзеў у сваім твітары адзначыў, што не згодны з удзельнікамі, але яны маюць права выказаць свой пратэст. Ёсць меркаванне, што менавіта праз «паўліберальную» палітыку Мядзведзева сталі магчымыя пратэсты, а таксама адносна справядлівы падлік галасоў.

Падобна як у Беларусі гэтым летам падчас «маўклівых пратэстаў», людзі выйшлі на плошчы не толькі сталіцы, але і рэгіёнаў. Дзесьці дзясяткі, дзесьці сотні, дзесьці тысячы. Але за часамі Пуціна палітычныя акцыі ў гэтых гарадах ніколі не былі больш масавымі.

Акцыя ў Маскве аб'яднала людзей самых розных поглядаў — і анархістаў, і нацбалаў. Топавы расійскі блогер drugoi назваў суботу «найлепшым днём у сваім жыцці». Цэнтральныя тэлеканалы выйшлі з аб'ектыўнымі рэпартажамі з Балотнай плошчы. У Беларусі такога не бывала.

Наступная акцыя запланаваная на 24 снежня.

**Зміцер Панкавец**

## Расійская апазіцыя: хто ёсць хто

**Крамлёўская прапаганда хоча, каб расійскай апазіцыяй лічыліся камуністы Зюганава і ЛДПР Жырыноўскага.**

Партыі, якія шмат гадоў прадстаўленыя ў Думе, але не ўдзельнічаюць у рэальнай барацьбе за ўладу.

Снежаньскія пратэсты ж паказалі, што рэальны спектр расійскай апазіцыі нашмат шырэйшы.

- **«Парнас»** (За Расію без бясчынства і карупцыі) — кааліцыя расійскіх «пазасістэмных» апазіцыянераў. Партыю не зарэгістравалі для ўдзелу ў парламенцкіх выбарах. Сустаршыні: Міхаіл Касьянаў, Уладзімір Рыжкоў і Барыс Нямцоў.
- **Аб'яднаны дэмакратычны рух «Салідарнасць»** — ліберальны рух, што аб'ядноўвае каля 6000 чалавек. Як у нашага БХД, у «Салідарнасці» чатыры сустаршыні: палітык Барыс Нямцоў, шахматыст Гары Каспараў, лідар моладзі Ілля Яшын, дысідэнт Уладзімір Букоўскі.
- **«Іншая Расія»** — незарэгістраваная партыя Эдуарда Лімонава, пераараджэнне Нацыянал-бальшавіцкай партыі. Адна з найбольш радыкальных сілаў Расіі, арганізатары «Маршаў нязгодных».
- **Расійскі народна-дэмакратычны саюз** — цэнтрысцкая арганізацыя, якую ўзначальвае былы прэм'ер-міністр Расіі Міхаіл Касьянаў.
- **Рэспубліканская партыя Расіі** — была заснаваная пры развале Савецкага Саюза дэмакратычнымі прадстаўнікамі КПСС. Узначальвае партыю сябар нашага Анатоля Лябедзькі Уладзімір Рыжкоў.
- **Моладзевы рух «Абарона»** — нават сімвал арганізацыі падобны да сербскага «Адпору», які спрычыніўся да сыхода Мілошавіча. Па сваёй дзейнасці нагадвае наш «Малады фронт».
- **«Левы фронт»** — радыкальная арганізацыя, што аб'ядноўвае левых самых розных ідэалогій, ад сталіністаў да трацкістаў. Лідар арганізацыі Сяргей Удальцоў быў адным з першых, хто пачаў пратэставаць на выніках парламенцкіх выбараў.
- **Саюз правых сілаў** — некалі парламенцкая партыя, якая цяпер не праходзіць думскую планку. Лідар — Леанід Гозман.
- **«Правае дзела» і «Яблык»** — фармальна апазіцыйныя партыі, якія дзейнічаюць пад кантролем Крамля.

**ЗП**

## Яўгенія Чырыкава: Вам, беларусы, цяжэй

**Адной з найбольш актыўных удзельніц паслявыбарчых пратэстаў у Расіі была Яўгенія Чырыкава.**



**Яўгенія Чырыкава**

Нарадзілася ў 1976 у Маскве. Лідарка «Руху ў абарону Хімкінскага лесу», прадпрымальніца. Падпісантка звароту «Пуцін павінен сысці». Замужам, гадуе дзвюх дачок.

Яна выступала на мітынгу на Чыстых Прудах і на Балотнай. Вядомасць да Чырыкавай прыйшла пасля акцый у абарону Хімкінскага лесу.

**«Наша Ніва»: Як вам удалося зладзіць такія масавыя акцыі?**

**Яўгенія Чырыкава:** Набалела. Мне здаецца, што ў расійскім грамадстве пайшоў працэс кансалідацыі. Бо мы ўсе супраць «Партии жуликов и воров». І рускія, і не, і багатыя, і бедныя. Калі рух пачаўся ў 80 гарадах краіны, калі кіпяць сацыяльныя сеткі, то гэта моцна. Лічу, што нездарма правяла 9 снежня ў мэрыі Масквы, каб дамовіцца аб мірнай акцыі. Нам не трэба крыві, не трэба бясчынстваў. Многія людзі першы раз выйшлі на акцыю, было важна, каб супраць іх не ўжываліся дубінкі амонцаўцаў.

**«НН»: Што будзе 24 снежня?**

**ЯЧ:** Цяпер для нас важней за ўсё аб'яднаць намаганні з палітычнымі сіламі самых розных поглядаў. Нам трэба сябраваць і разам праводзіць гэтую акцыю.

**«НН»: Што могуць зрабіць для вас беларусы?**

**ЯЧ:** Могуць пісаць хаця б словы падтрымкі ў інтэрнэце. Гэта таксама важна. Вам усё ж нашмат цяжэй. У вас ёсць палітзняволеныя, вас збіваюць.

**«НН»: А дзе гарантыя, што расійская ўлада не пачне карыстацца досведам Лукашэнкі?**

**ЯЧ:** Расія — вельмі вялікая краіна. Тут будзе цяжэй так рабіць. А яшчэ, у адрозненне ад Лукашэнкі, рахункі расійскага кіраўніцтва знаходзяцца ў заходніх банках, таму наўрад будзе нешта падобнае.

**«НН»: Адзіны лідар на прэзідэнцкіх выбарах будзе?**

**ЯЧ:** Не. У нас шмат'ядравае грамадства. Нельга адным чалавекам задаволіць усіх. У нашай рознасці і палягае сіла.

**«НН»: Што будзе, калі кіраўніцтва краіны не прыслухаецца да вашых патрабаванняў новых выбараў?**

**ЯЧ:** Народ узбунтуецца. Мне здаецца, што расійцы доўга цярпяць, але потым кажуць сваё важкае слова. У 1905-м улада засталася глухой да патрабаванняў людзей. І гэта скончылася 1917-м.

**Гутарыў ЗП**



## Бел-чырвона-белыя сцягі на Балотнай

**На пратэстах у Маскве былі і беларусы.**

«Быў у Расіі разам з яшчэ сямю маладафронтаўцамі, — расказвае Мікола Дземідзенка. — Нас запрасіла партнёрская арганізацыя «Абарона». Вырашылі з'ездзіць. Уражанні дваістыя. З аднаго боку, вялізная колькасць людзей. Шмат сярод іх адэкватных, тых, хто хоча еўрапейскай будучыні сваёй краіне. Разам з тым шмат радыкалаў, правых і левых. У нас такіх няма. Мы разгарнулі бел-чырвона-белыя сцягі. Людзі класна рэагавалі, падыходзілі, цікавіліся нашымі справамі і настроем».

**ЗП**

# Траянскі «Белтрансгаз»

**Расія ўтрая падымае заробкі на прадпрыемстве і перасаджвае мэнэджараў на «Мерсэдэсы».**

Гуляць — дык з размахам. Прэм'ер-міністр Расіі Уладзімір Пуцін і кіраўнік «Газпрама» Аляксей Мілер вырашылі зрабіць набыты «Белтрансгаз» узорным прыкладам таго, што нібыта здарыцца з Беларуссю ў выпадку прыходу расійскага капіталу. Спіс усходніх абяцанаквыглядае амбіцыйным і рознабаковым — «Белтрансгаз» атрымае шыкоўны новы офіс са спорткомплексам, супрацоўнікам

**Філосаф Булгакаў: Расія паімперску інвестуе ў свой імідж**

«Продаж «Белтрангаза» ўжо цяпер прыводзіць да палітычнай дэстабілізацыі рэжыму, бо, павышаючы заробкі і перасаджваючы на «мэрсэдэсы», Пуцін паказвае беларускай эліце, што прыход расійскіх уласнікаў будзе азначаць увагу да іх, рост іх дабрабыту, — мяркуе філосаф Валер Булгакаў. — Расея паімперску інвестуе ў свой імідж, падтрымлівае міф пра расійскую шчодрасць».

Сярэдні заробак на «Белтрансгазе» складзе 13,5 млн рублёў

будуць плаціць у тры разы больш, мэнэджары перасядуць на дарагія «Мерсэдэсы», а шматмільённая праграма «Газпрам — дзецям» распаўсюдзіцца на нашу краіну.

Гэта будзе ў перспектыве. У рэальнасці ж пакуль што расіяне знялі чырвона-зялёныя сцягі каля офісаў, павесілі замест іх сцяг «Газпрама» і дамовіліся пра перайменаванне кампаній. Цяпер «Белтрансгаз» будзе называцца скарагаворкавым «Газпрам трансгаз Беларусь».

### Незаўважаны Мілер

Кіраўнік «Газпрома» Аляксей Мілер прыляцеў у Мінск яшчэ тыдзень таму, каб асабіста абвяціць пра новыя правілы, па якіх будзе гуляць беларуская кампанія. У адрозненне ад яго ных ранейшых прыездаў, на гэты раз улады вырашылі праігнараваць Мілера. Адметна, што дзяржаўныя СМІ — ні БелТА, ні «Советская Белоруссия» са «Звяздой» — пра павышэнне заробкаў на «Белтрансгазе» не напісалі ні слова.

Аляксандр Лукашэнка дагэтуль спрабуе ствараць уражанне, што ні кроплі не шкадуе аб продажы кампаніі. «Прадаўшы 50% «Белтрансгаза», Беларусь нічога не страчвае, а наадварот, значна набывае, атрымаўшы вялікую скідку па прыродным газе, — тлумачыў ён, а пасля пераходзіў на крык. — Што, я павінен быў маліцца на гэту ржавую трубу, якая ў зямлі ляжыць?!»

Так ці інакш, але цяпер расійцы змогуць спакушаць прыкладам «Белтрансгаза» і рабочых іншых прадпрыемстваў, якія стаяць у чарзе на прыватызацыю.

### Хто стане лішнім?

Аднак 6500 супрацоўнікам кампаніі — менавіта столькі чалавек лічыцца на рахунку — рана ра-

**Дзяржаўныя СМІ пра абяцанні Мілера не напісалі ні слова**

дасна паціраць рукі. Па-першае, Мілер загаварыў пра павышэнне эфектыўнасці працы «Белтрансгаза». Гэта можна азначаць скарачэнне штатаў. Па-другое, з Масквы могуць прысылаць і новых топмэнэджараў. «Масква не пагодзіцца, каб хтосьці ў Мінску забраў сабе частку паўнамоцтваў, — адзначыў у інтэрв'ю радыё «Свабода» былы інжынер службы газаразмеркавальных станцый «Белтрансгазу» Аляксандр Мех. — Першымі пад раздачу трапяць ранейшыя кіраўнікі. Калі кагосьці будуць дасылаць, то толькі кіраўнікоў галаўных офісаў». Пакуль што на чале прадпрыемства застаецца расіянін Уладзімір Маёраў.

### Дзясяткі тысяч газавікоў

У структуру «Белтрансгаза» ўваходзяць восем магістральных трубаправодаў, тры падземныя сховішчы і некалькі дапаможных арганізацый. Паводле інфармацыі «Коммерсанта», сярэдні заробак на іх складае каля 4,5 млн рублёў. Гэта азначае, што расійцы гатовыя плаціць супрацоўнікам каля 13,5 млн ($1500). Усё адно гэта менш, чым у Расіі. Там у «Газпраме» атрымліваюць у сярэднім $2000.

Аднак павышэнне заробкаў закране не ўсіх «газавікоў» краіны. Астатнія кампаніі, напрыклад, «Мінскаблгаз» ці «Брэстаблгаз», падпарадкоўваюцца канцэрну «Белпаліўгаз». Той ажыццяўляе пастаўкі не прыроднага, а звадкаванага газу. Агулам у ім працуюць каля 30 тысяч чалавек. Паводле расійскага разліку, яны, як і ўся Беларусь, павінны пачаць прасіцца ў расійскую ўласнасць.

**Эканаміст Гатоўскі: Рана казаць, што крызіс скончыўся**

Намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра сістэмнага аналізу і стратэгічных даследаванняў Акадэміі навук Аляксандр Гатоўскі лічыць, што казаць пра сканчэнне крызісу ў краіне рана. Гэткую думку ён выказаў на канферэнцыі «Беларусь і беларусы сярод суседзяў», што праходзіла ва ўніверсітэце Лазарскага ў Варшаве.

На думку Гатоўскага, насельніцтва ўсё болей глядзіць у бок Расіі. «Там ёсць сацыяльныя льготы, даступныя крэдыты на жыллё, мацярынскі капітал. Цяпер яны павышаюць заробкі на «Белтрансгазе». Гучаць галасы аб увядзенні расійскага рубля. Тут увогуле паўстае пытанне існавання Беларусі як незалежнай дзяржавы. Рана казаць, што крызіс скончыўся».

ЗП

Ягор Марціновіч

# «Замарозка» не працуе

**Беларусы не могуць набыць тавары па «сацыяльных» цэнах.**

Улады хочуць пашырыць спіс тавараў, максімальныя цэны на якія фіксуюцца заканадаўча. Згодна з заявай старшыні Дзяржкантроля Аляксандра Якабсона, у яго дададуць пяльмені, фарш, сардэлькі, дзіцячыя тавары, адзенне, абутак і бытавую хімію. Вось толькі што зменяць новыя абмежаванні, калі беларусы фактычна не могуць купіць «сацыяльныя тавары» па замарожаных цэнах?

Рэч у тым, што вытворцам нявыгадна прадаваць тавар па ўсталяваных цэнах, таму яны акуратна абыходзяць патрабаванні. Напрыклад, літр пастэрызаванага малака без напаўняльнікаў павінен каштаваць не больш за 2 320 рублёў. А прадпрыемствы пачынаюць прадаваць упакоўкі па 0,9 л, на якія абмежаванні не распаўсюджваюцца. Ці дадаюць у малако карысныя рэчывы, каб не рабіць тавар «без напаўняльнікаў». У выніку чэргі ахвотных набыць танныя прадукты збіраюцца каля крамаў яшчэ перад адкрыццём. «Сацыяльнага тавару», якога завозяць мала, хапае не ўсім...

ЯМ

**Колькі павінны каштаваць «сацыяльныя тавары»?**

Малако (1 л, тлустасць 3,5%) — 2 320 рублёў

Кефір (1 л, 3,5%) — 2 340 рублёў

Смятана (1 л, 25%) — 9 310 рублёў

Аржаны хлеб (апроч заварных гатункаў) — 1 260 рублёў

Свініна (мясакосны паўфабрыкат, 1 кг) — 28 980 рублёў

# Трывожная статыстыка

**Замежны гандаль таварамі даў -$150 мільёнаў за месяц пры свабодным продажы валюты.**

Нягледзячы на больш жорсткую манетарную палітыку Нацбанка, адмоўнае сальда замежнага гандлю Беларусі ў кастрычніку склала $152 мільёны.

Сумная статыстыка атрымалася насуперак таму, што Нацбанк знізіў тэмпы эмісіі і павысіў працэнтныя стаўкі, хоць яны яшчэ і адставалі ад эмісіі. Аднак гэтага аказалася мала: у выніку таго, што ад верасня доступ да валюты стаў свабодны. Беларусь, уступіўшы ў Мытны саюз і Адзіную эканамічную прастору, будзе сутыкацца з пастаяннымі праблемамі канкурэнтаздольнасці.

Кастрычніцкая статыстыка паказвае, што дэвальвацыя рубля не была выпадковасцю і яна працягнецца. Няма як спадзявацца, што сярэдні заробак у краіне ў набліжэйшы час істотна перавысіць планку $300.

Сяргей Гезгала

## Сцісла

**«Панаехалі»**

Мэр Смаленска Мікалай Алашэеў абураны нашымі суайчыннікамі, якія гандлююць беларускімі харчовымі таварамі ў горадзе. Ад танных прадуктаў церпяць мясцовыя прадпрымальнікі.

**Стаўка рэфінансавання — 45%**

Гэта 12-е павышэнне за год, праз што Беларусь захоўвае сусветнае першынства па памеры стаўкі. Нацбанк вымушаны ісці на такія крокі, бо інфляцыя застаецца высокай.

**Мінскія маршруткі — 5000 рублёў.**

На новы тарыф кіроўцы перайшлі пасля чарговага падаражэння бензіну. Цяпер уладальнікі маршрутак могуць выстаўляць адвольны кошт сваіх паслугаў.

ЯМ

# Новы чэк даражэйшы за старыя два




**Колькі давядзецца заплаціць за леташні набор прадуктаў?**

Цэны растуць ледзь не кожны тыдзень, таму людзі рэдка звяртаюць увагу на тое, што хлеб падаражэў на 100 рублёў, а малако — яшчэ на 50. Але калі азірнуцца на год назад, відаць гіганцкая розніца цэнаў.

Чытач «Нашай Нівы» прынёс у рэдакцыю чэк з гіпермаркета «Карона». Ён датаваны лістападам 2010 года. Месяц да выбараў, павышэнне заробкаў усёй краіне, няма дэфіцыту тавараў... Таму і чэк унушальны — 71 тавар на 190 тысяч рублёў.

Чытач — шматдзетны тата, таму сярод пакупак можна ўбачыць шмат дзіцячага харчавання і тварожных пастаў. І ніякага алкаголю.

Мы ўзялі стары чэк і пайшлі з калькулятарам у тую самую «Карону», каб паглядзець, колькі тыя тавары каштуюць цяпер. Наколькі белстатаўскія падлікі інфляцыі пацвердзяцца ў побытавай сітуацыі? Нагадаем, паводле афіцыйнай інфармацыі, цэны выраслі на 104%. Гэта значыць, набор тавараў мусіў каштаваць каля 390 тысяч рублёў. Што ж атрымалася на справе?

Як выявілася, цяпер за вялізны кошык давялося б аддаць 414 540 тысяч рублёў. Што падаражэла ў чэку больш за ўсё? На першым месцы беларускія агуркі, якія каштуюць у 4,8 разу больш. Раней за кілаграм трэба было аддаць 6330 рублёў, а цяпер — 30250. Таматны сок «Сочны» і порысты шакалад «Рашэн» падаражэлі ў 3,5 разу. Першы з іх цяпер каштуе 9000 рублёў, а другі — 9950 рублёў. Пры гэтым ніводзін прадукт не захаваў сваю цану і тым больш не патаннеў...

ЯМ

# Беларусы тысячамі бягуць за мяжу

Толькі ў Брэсцкай вобласці з пачатку года звольніліся **16 500 будаўнікоў**.

Большасць з іх пераехалі на заробкі ў Расію. Прычым гэта толькі афіцыйная лічба, якая прагучала на паседжанні Брэсцкага аблвыканкама, дзе абмяркоўвалася сітуацыя ў галіне. Як піша газета «Вячэрні Брэст», чыноўнікі спрабуюць знайсці выйсце з сітуацыі, якая склалася, але разумеюць, што прыцягнуць спецыялістаў могуць толькі нармальныя зарплаты.

І 16 500 — гэта толькі ў адной вобласці і адной галіне эканомікі.

**Захаваць спецыялістаў могуць толькі нармальныя зарплаты »**

Людзі не хочуць ехаць у Расію, бо там гастарбайтары часта гінуць ад дрэннай бяспекі на аб'екце і злачынных нападаў, але не маюць выхаду. На 300-даляравыя заробкі пры сённяшнім узроўні цэнаў вельмі цяжка пражыць сем'ям, у якіх ёсць дзеці. А што гаварыць пра сем'і, дзе некалькі дзяцей ці ёсць хворыя.

**Сяргей Гезгала**

## Тэнгіз Думбадзэ сышоў з АНТ на грашовую пасаду

З 5 снежня тэлевядучы ўзначальвае **беларускі офіс** «тэлерадыёвяшчальнай арганізацыі саюзнай дзяржавы».

Як прызнаецца «Камсамольскай праўдзе» Думбадзэ, гэтая прапанова паступіла яму яшчэ ўлетку ад старшыні канала Ігара Угольнікава.

— З гэтай прычыны я з новага сезона не пайшоў працаваць у кадр ток-шоу «Адкрыты фармат». Каб потым, у сярэдзіне сезона гледачы не шукалі якіхсьці прычын майго сыходу з праграмы, — кажа Думбадзэ.

Нагадаем, на АНТ ён працаваў з 2004 года. Пасля закрыцця праграмы «Выбар» з Сяргеем Дарафеевым стаў сувядучым ток-шоу «Адкрыты фармат» і праславіўся сваімі прапагандысцкімі перадачамі.

**СГ**

## Дарафееў выступіць на тыдні салідарнасці з Беларуссю

Акцыя працягваецца ў Кіеве з **10 да 19 снежня**.



Тэлевядучы Сяргей Дарафееў 14 снежня возьме ўдзел у дыскусіі «Як украінскія журналісты могуць дапамагчы Беларусі?» Запланаваны таксама круглы стол украінскіх пісьменнікаў «Літаратары супраць рэпрэсій у Беларусі». У дзень гадавіны Плошчы ў Кіеве адбудзецца пікетаванне пасольства Беларусі «Свабоду палітвязням!»

**АГ**






## Хутка свята завітае — час набываць паштоўкі

Беларуская зімовая серыя «След за марамі» **з'явілася ў кнігарнях**.

Час ляціць, не заўважыш, як прыйдуць зімовыя святы. А разам з імі паўстане пытанне, дзе набыць віншавальныя паштоўкі. Прапануем вашай увазе некалькі навагодніх паштовак, а таксама зімовую серыю «След за марамі».

Паштоўкі можна пабачыць на сайце knihi.by, а таксама ў «Акадэмкнізе» (пр. Незалежнасці, 72), «Кніжным салоне» (вул. Калініна, 5), «Кнігарня «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а).

**СП**

## Праваабаронцам года названы Алесь Бяляцкі

Адвакатамі года названыя **Марына Кавалеўская і Дар'я Ліпкіна**, журналістамі года — Юлія Дарашкевіч і Уладзь Грыдзін.



Лаўрэаты прэміі. Злева направа: Грыдзін, Дарашкевіч, Кавалеўская і жонка Бяляцкага.

Пераможцы ў дадзеных намінацыях вызначаны прадстаўнікамі вядучых праваабарончых арганізацый Беларусі.

Праваабаронцам года быў названы Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, кіраўнік закрытага ўладамі праваабарончага цэнтра «Вясна».

У намінацыі «Адвакат года» і «Журналіст года» ў гэтым годзе былі вызначаныя па два пераможцы. У першай намінацыі былі названыя адвакаткі Марына Кавалеўская і Дар'я Ліпкіна. У другой — фотакарэспандэнты Юлія Дарашкевіч і Уладзь Грыдзін.

Конкурс быў заснаваны «Праваабарончым альянсам», які ўзначальвае Людміла Гразнова. Сёлета кандыдатуры пераможцаў «Праваабарончы альянс» вызначаў супольна з іншымі праваабарончымі арганізацыямі краіны і пры ўдзеле Беларускай асацыяцыі журналістаў.

**Прысутны**

Факты

## Невядомы пагражаў выбухам на станцыі метро «Якуба Коласа»

Яму «свецікць» **да 5 гадоў турмы**.

Савецкі РУУС Мінска распачаў крымінальную справу ў дачыненні да мужчыны, які ў вагоне метро паведаміў іншым пасажырам пра пагрозу выбуху. Пра гэта паведамляецца ў зводцы МУС. Інцыдэнт здарыўся 12 снежня ў панядзелак на станцыі «Плошча Якуба Коласа».

Крымінальная справа заведзена па ч.1 арт.340 КК РБ (загадзя ілжывае паведамленне аб рыхтаваным выбуху, падпале ці іншых дзеяннях, якія ствараюць небяспеку для жыцця і здароўя людзей, альбо прычынення шкоды ў буйным памеры, альбо іншыя цяжкія наступствы). Згодна з гэтым артыкулам мужчыну пагражае да пяці гадоў турмы.

**АГ**

## Стыпендыя — 800 тысяч рублёў

Такую стыпендыю курсанты Вайсковай акадэміі атрымліваюць пасля таго, як робяцца вайскоўцамі па кантракце.

Будучыя вайскоўцы маюць трохі большыя стыпендыі, чым студэнты цывільных ВНУ. Стыпендыя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце ў самых-самых выдатнікаў складае 570 тысяч рублёў.

**СГ**

## «Выканкам просіць арганізаваць падпіску на кантраляваныя выданні»

**Кампанія па прымусовай падпісцы** на дзяржпрэсу закранула нават дзіцячыя садкі.

Даўно не сакрэт, што ў дзяржаўных установах стала практыкай падпіска на афіцыйную прэсу з дапамогай адміністрацыйнага рэсурсу. Механізм просты: рай-, гарвыканкамы дасылаюць ва ўстановы лісты, у якіх прапануецца, а то і патрабуецца арганізаваць падпіску на дзяржвыданні. Цяпер гэтая практыка дакацілася і да дашкольных установаў.

Так, салігорскія праваабаронцы сведчаць пра настойлівыя просьбы да бацькоў падпісацца на ведамаснае выданне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях «Юный спасатель». Па словах праваабаронцаў, на гэтую газету нібыта масава падпісвалі мясцовых прадпрымальнікаў. А тыя пагаджаліся і пагаджаюцца, бо не хочуць мець праблем з пажарнай інспекцыяй.

### «З мэтай больш поўнага інфармавання насельніцтва»

А вось адзін са свежых прыкладаў добраахвотна-прымусовай падпіскі ў медыцынскім асяродку. У рэдакцыю «НН» адзін з чытачоў перадаў ліст з Упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама, разасланы па ўсіх медустановах вобласці. У ім — аб правядзенні падпісной кампаніі на першы квартал 2012.

«З мэтай больш поўнага і шырокага інфармавання насельніцтва вобласці аб сацыяльна-эканамічным развіцці рэгіёнаў Міншчыны прашу забяспечыць ведамасную падпіску на газеты «Мінская праўда», «Советская Белоруссия», раённыя выданні, часопіс «Планета», «Рэспубліка», «Народная газета», «Звязда», «Белорусская нива», «Знамя юности». Падпісаны ліст начальнікам Упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама Ліпніцкім. Адметна, што ад медыкаў патрабуюць падпіску не на спецыялізаваныя выданні кшталту «Медицинского вестника», а на тыя, у якіх і без таго шмат падпісчыкаў, па словах міністра інфармацыі Праляскоўскага.

### «Патрабую ўзяць пад асабісты кантроль»

Як правіла, выканкамаўскія чыноўнікі абстаўляюць своеасаблівую падпісную кампанію як просьбу, унікаючы загаднага ладу. Але не ўсе. Старшыня Пухавіцкага райвыканкама Фёдар Караленя не толькі загадаў узяць пытанне падпіскі пад асабісты кантроль, але і ахарактарызаваў дзяржпрэсу як «кантраляваныя перыядычныя выданні».

Словазлучэнне «кантраляваныя выданні» фігуруе ў лісце намесніка старшыні Ваўкавыскага райвыканкама Уладзіміра Захарчука. Аднак у адрозненне ад пухавіцкага старшыні, ён толькі просіць арганізаваць падпіску.

**Кастусь Матушыч, Сямён Печанко**

# Давыдзька апусціўся

**На БТ расказалі, нібыта Саннікаў «добраахвотна ўвайшоў у камеру з «апушчаным» і «знаходзіцца «на самым дне» — такі недатыкальны.**

У нядзелю ў праграме «У цэнтры ўвагі» на тэлеканале «Беларусь-1» паказалі моташны рэпартаж, у якім Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча прадставілі людзьмі на дне крымінальнага жыцця.

У відэа фігуруе актывіст праваабарончай арганізацыі «Платформа» Юрый Чыгілейчык. Ён сказаў, што ў Саннікава ўзніклі праблемы ў калоніі праз Дашкевіча.

Журналіст БТ (голас за кадрам) пайшоў далей і творча развіў гэтую ідэю. Ён дайшоў да таго, што заявіў, што Саннікаў нібыта «добраахвотна ўвайшоў у камеру з «апушчаным» і «знаходзіцца «на самым дне» — такі «недатыкальны». Далей ішлі інсінуацыі вакол таго, што палітыка іншыя зняволеныя абвясцілі персонай нон-грата. І ніякім аўтарытэтам ён там не карыстаецца.

Такі матэрыял не мог з'явіцца без санкцыі цяперашняга кіраўніка БТ Генадзя Давыдзькі.

І трэба адзначыць, што ніколі раней такімі бруднымі прыёмамі БТ не карысталася — нават за Чыкіным і Зімоўскім.

Пусціўшы перадачу з гэткімі фантазіямі — а тэлебачанне ў турмах глядзяць, — лукашэнкаўцы разлічваюць ізаляваць Саннікава і Дашкевіча ад іншых вязняў, зрабіць іх жыццё ў калоніях невыносным.

На думку сваякоў палітвязняў, такім чынам лукашэнкаўцы помсцяць вязням за тое, што яны адмаўляюцца пісаць прашэнні аб памілаванні.




**Падчас выбараў Ірына Халіп была ўвесь час з Андрэем Саннікавым. Ужо год як Андрэй у турме.**

Раней жонка палітыка Ірына Халіп заяўляла, што да Андрэя Саннікава ў камеру спрабавалі падсадзіць чалавека з нізкім статусам. Але на пратэст палітыка яго адсадзілі.

Брудны рэпартаж БТ прагучаў у адной праграме з заявамі Аляксандра Лукашэнкі пра тое, што хутка Беларусь можа стаць «самай ліберальнай з дзяржаваў».

**Кастусь Матушыч, Мікола Бугай**

«Усё пачалося з першага этапавання Андрэя. Менавіта тады прагучалі пагрозы, што да Бабруйска ён не даедзе. А калі даедзе, то яго заб'юць там, — расказала «НН» Ірына Халіп. — Уладам не падабалася, што Андрэй мае вялікі маральны аўтарытэт сярод асуджаных.

Да яго сапраўды спрабавалі падсадзіць «апушчанага». Але ён адразу абвясціў галадоўку і заявіў, што сядзець у адной камеры з гэтым чалавекам не будзе. «Апушчанага» забралі. Што адбываецца ў «Віцьбе», я не ведаю. Лічу тое, што да яго не дапускаюць адваката, не даходзяць лісты, робіцца, каб змясціць чалавека ў пэўны вакуум. Калі яго можна спрабаваць у чымсьці пераканаць. Маўляў, пакуль цябе няма, пра цябе забыліся, адвакаты займаюцца іншымі справамі, жонка добра пачуваецца без цябе, а маці, магчыма, ужо ў шпіталі з сардэчным прыступам. Што заўгодна можна чалавеку ўнушаць.

Андрэя імкнуліся зламаць, але не зламалі. А калі не атрымалася зламаць, чаму не паспрабаваць яго дыскрэдытаваць. Цяпер яны спрабуюць тое зрабіць, але гэта бессэнсоўна».

## Яшчэ адна гнюсная правакацыя супраць сям'і Саннікава і Халіп

**На сайце «Беларускага партызана» з'явіўся запіс «Ганьба сям'і», які нібыта належыць драматургу Уладзіміру Халіпу.**

Гаворка ў допісе вялася пра нашумелы сюжэт на тэлеканале «Беларусь-1» пра Андрэя Саннікава і Змітра Дашкевіча. «Аўтар» выказваў абурэнне матэрыялам, а таксама змясціў тое самае відэа.

Уладзімір Халіп кажа: «Я ніколі нічога не даваў сайту «Партызан». Гэта надрукаваў не я».

Мы звязаліся з кіраўніком сайта «Беларускі партызан» Паўлам Шараметам. «Я быў здзіўлены, калі пабачыў гэты допіс. Сапраўды, мы заводзілі акаўнт для Уладзіміра Халіпа, каб ён мог весці блог, дасылалі яму код доступу, але ён нічога не друкаваў», — кажа Шарамет.

«Некалькі месяцаў таму ў нас была падобная непрыемная гісторыя з Агурцовым, у ягоным блогу быў надрукаваны брудны матэрыял пра Ірыну Халіп, з відэа з порнасайтаў. Мы хутка знялі матэрыял, папрасілі прабачэння. Тады мы прасілі ўсіх аўтараў быць вельмі ўважлівымі, змяніць паролі, бо іх кампутары могуць быць узламаныя», — кажа журналіст.

«Аўтары самі змяшчаюць допісы, без нашай прэмадэрацыі. Паколькі Халіп не званіў нам, то нейкі час мы не здымалі гэты допіс».

Выглядае, што такі «ўкід» ад імя Уладзіміра Халіпа зроблены, каб распаўсюдзіць відэа, для гэтага была абраная пляцоўка папулярнага інтэрнэт-рэсурса.

«Мярзоцце. Гэтыя падонкі не могуць зламаць Андрэя [Саннікава — «НН»], дык дзейнічаюць такім чынам», — кажа Уладзімір Халіп.

**Зміцер Панкавец**

## Васьковіч: «Перастаньце называць мяне анархістам, я нацыяналіст»



**Хлопца, які шпурнуў кактэйль Молатава ў будынак КДБ, перавялі ў «крытку».**

Яўген Васьковіч сядзіць у магілёўскай турме ў камеры на трох чалавек. З калоніі яго перавялі ў «крытку» (турму камернага тыпу) за парушэнні. У тым ліку за тое, што не аддаваў кантралёрам беларускамоўную Біблію. 18 лістапада ён выйшаў з ШІЗА, дзе правёў месяц.

Сядзець яму непасрэдна ў турме яшчэ 3 гады, але і пасля гэтага да канца тэрміну будзе вельмі далёка... Пра «УДВ» (умоўнадатэрміновае вызваленне) ці «замену рэжыму» можна забыць у прынцыпе — гэта тычыцца амаль выключна брыгадзіраў ды заггасаў атрадаў з ліку саміх зэкаў. Асабістаму ворагу Камітэта дзяржбяспекі не даводзіцца разлічваць на нейкія паслабленні...

У сваім апошнім лісце Васьковіч піша: «Зрабіце, калі ласка, хоць што, каб у прэсе мяне перасталі называць анархістам. Я быў, ёсць і буду нацыяналістам».

Ён просіць у лістах даслаць яму тэксты патрыятычных песень і публікацыі на нацыянальную тэматыку.

У свой час мне давялося перасякацца з анархістамі на Валадарцы і ў Наваполацку (турма заўжды шліфуе ідэалагічныя супярэчнасці). Дык вось, яны былі заваленыя лістамі як з Беларусі, так і з-за мяжы. Гэта была іх анархісцкая салідарнасць.

Свой апошні ліст Васьковіч сканчае вершам Арсенневай:

Беларусь, наша Маці-Краіна,
Ты з нас моцных зрабіла людзей…

**Алесь Кіркевіч**

Яўген Васьковіч, 212011, г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма № 4.

**Яшчэ пра Васьковіча чытайце на старонцы 12.**

### Сцісла

**Штраф за пратэст супраць смяротнага пакарання**

Таццяну Гацура аштрафавалі на 20 базавых велічынь (700 тыс. рублёў) за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. 6 снежня яна разам з двума сынамі дзевяці і дзесяці гадоў прыйшла падаваць у Адміністрацыю прэзідэнта зварот да А.Лукашэнкі аб змене пакарання для Канавалава і Кавалёва. У руках у яе быў плакат з надпісам: «Спадар прэзідэнт, у мяне 4 дзяцей. Хто абароніць іх права жыць?»

**Сітуацыя з правамі чалавека ў краіне пагоршылася**

Пра гэта заявілі праваабаронцы. Па іх словах, сітуацыя нашмат змянілася за апошні год. Пераслед зазналі не толькі палітыкі і актывісты, а таксама адвакаты, якіх пазбавілі ліцэнзій. «Рэпрэсіі ўлады накіраваны і на праваабаронцаў, гэта значыць на тых, хто непасрэдна не з'яўляецца яе апанентам у барацьбе за ўладу, на так званых «санітараў», якія выводзяць з поля боя «параненых». Гэта, канечне, сумна, але, нягледзячы ні на што, мы павінны прыкладаць усе намаганні для захавання правоў чалавека», — адзначыў старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак.

**КМ**

# Юрый Чыж носіць гадзіннік, даражэйшы за $400 тысяч

**Плацінавы Ulysse Nardin** мае абмежаваны выпуск — усяго 30 экзэмпляраў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Супердарагі гадзіннік бізнэсмэн Юрый Чыж «засвяціў» у часе паседжання выканкама Беларускай федэрацыі футболу.

Выглядае, бізнэсовец носіць гадзіннік Circus Minute Repeater (749-80) фірмы Ulysse Nardin з плацінавым корпусам, цыферблатам з чорнага аніксу і белага золата і раменьчыкам са скуры алігатара з плацінавай устаўкай. Або таннейшы на $30000 Circus Minute Repeater (740-88).

Розніца ў кошце тлумачыцца тым, што ў гэтай мадэлі цыферблат выраблены з сіняга авантурыну, а ў раменьчыку ўстаўка не з плаціны, а з белага золата.

Усяго такіх гадзіннікаў у кожнай з трох версій выраблена па 30 экзэмпляраў. Па цане гадзіннік Чыжа ўваходзіць у ТОП-25 самых дарагіх гадзіннікаў свету.

Юрый Чыж — адзін з самых багатых бізнэсоўцаў Беларусі. Ягонае ТАА «Трайпл» займаецца будаўніцтвам, а таксама перапрацоўкай і продажам нафтапрадуктаў. Чыж валодае рэстаранным бізнэсам і вытворчасцю газаваных напояў, вытворчасцю будматэрыялаў і футбольным клубам.

Нарадзіўся ён пад Бярозай, і дагэтуль мае сувязь з малой радзімай. Пачынаў ён кар'еру ў сферы машынабудавання, бізнэсам стаў займацца ў 90-я.

Памер багацця Юрыя Чыжа дакладна вызначыць немагчыма. Ён належыць да нешматлікага кола багатых людзей краіны, набліжаных да Лукашэнкі.

**Сямён Печанко**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Што ўяўляе сабой Circus Minute Repeater?**

Анімаваная кампазіцыя, якая ўяўляе сабой цыркавую арэну, упрыгожвае блакітны авантурынавы цыферблат гэтага эксклюзіўнага гадзінніка. Кожная з шасці фігурак уручную філігранна выразаная з золата. Пры запуску механізма хвіліннага рэпетыра малпачка спрабуе злавіць мячыкі, якімі жанглюе блазан, — гэтыя рухі суправаджаюць бой гадзінніка. Дрэсіроўшчык размахвае бізуном перад тыграм — адбываецца бой чвэрцяў гадзіны. Тыгр размахвае лапай у такт бою хвілін. Мядзведзь кланяецца балерыне, пакуль працуе механізм бою.

**Шпіёнка як твар швейцарскай кампаніі**

Цікавая дэталь: тварам швейцарскай кампаніі Ulysse Nardin у Маскве ў 2010 годзе стала скандальна вядомая расійская шпіёнка Ганна Чапмэн. Першы буцік, размешчаны за два крокі ад Краснай плошчы, яна адкрывала разам з уласнікам швейцарскай кампаніі Рольфам Шнайдэрам.

# Туфлі Ермаковай — нямецкай фірмы Caprice

«Ну вось у мяне яго [даляра] няма, і я не іду ў абменнік, мне ён проста не патрэбны, у мяне ў 90-я не было і сёння няма. Так, абутак завозіцца імпартны, так, ён стане крыху даражэйшы, але нічога страшнага, зносім замест двух туфляў адныя».

Так у канцы мая казала тады яшчэ кіраўнік «Беларусбанка», а сёння старшыня Нацбанка Надзея Ермакова. Словы пра адну пару туфель сталі крылатымі.

Нарэшце фатографы змаглі зняць гэты славуты абутак. Як падказалі чытачы, гэта туфлі нямецкай фірмы Caprice. Новая пара каштуе ў нямецкіх інтэрнэт-крамах каля 60 еўра. У Беларусі — каля мільёна рублёў.

**АГ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Фотафакт**




**Беларускі эратычны каляндар для ўсяго свету**

Студыя «Сайтвуд» скончыла праект эратычнага фотакаляндара для кампаніі TOPTUL, распрацоўшчыка і вытворцы прафесійнага інструмента для СТА. Каляндар будзе распаўсюджвацца між кліентамі кампаніі па ўсім свеце.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Божы дар і яечня,

ці Правадыр на раялі

На мінулым тыдні людзі, хворыя на Савецкі Саюз, атрымалі шырокую прастору для сьлязлівых уздыхаў і салодкіх успамінаў. З аднаго боку — 20 гадоў развалу СССР, з другога — 41-ы (і калі толькі паспелі?) з'езд БРСМ.

Што ж, мы ўжо прызвычаіліся да гістарычных фантасмагорый, ставімся да іх як да нечага непазбежнага. Між тым глабальныя гістарычныя фантасмагорыі, ад якіх здараюцца войны і ліецца кроў, складаюцца з маленькіх фантасмагорый, народжаных бязмежна хворымі фантазіямі цынічных палітыкаў і тых, хто прыстасоўваецца састрыгаць з іх небяспечных фантазій вельмі адчувальныя купоны...

Ну, ці не фантасмагорыя, калі з блаславлення мітрапаліта Філарэта праваслаўная царква падносіць у падарунак пераемнікам ленінскага камсамола Харугву з лікам Найсвяцейшай Багародзіцы — святы царкоўны сцяг?! Пераблыталі, так бы мовіць, Божы дар з яечняй. Бо тут, прабачце, адно з двух: альбо Харугва, альбо адмова ад сумнеўнага пераемніцтва ва ўсіх яго праявах і выніках.

Нават не толькі сумнеўнага — злачыннага ў дачыненні да Царквы.

Могуць усклікнуць: калі тое было!

Не «было» — ёсць.

Бо пад выглядам заахвочвання дабрачыннай дзейнасці моладзі блаславляецца распаўсюджванне атруты ад змярцвелай ідэалогіі.

Атруты, якая нараджае лгуноў, цынікаў і прыстасаванцаў — так званы кадравы рэзерв.

Шкада краіну, якой яны збіраюцца кіраваць.

Але шкада і тых падлеткаў, тых юнакоў і дзяўчат, хто сапраўды верыць у высокароднасць «лукамола»,

## Шкада краіну, якой яны збіраюцца кіраваць »

у яго «пранікнёную любоў» да Беларусі, прасякнутую так званым савецкім патрыятызмам.

Шкада тых дабрачынцаў, якія сапраўды бескарысліва дапамагаюць старым, хворым і нямоглым людзям, не ведаючы нават, колькі старых, нямоглых і хворых людзей можна было б забяспечыць нармальнымі пенсіямі, таннымі лекамі і сучаснымі прыстасаваннямі за тыя бюджэтныя грошы, якімі сілкуецца БРСМ...

Шкада тых маладзёнаў, да якіх сапраўды дакрануўся Бог, і якія вераць у шчырасць падтрымкі іх талентаў з боку ўлады, быццам улада не патрабуе ўзамен ідэалагічнай, а насамрэч праўладнай чысціні іх думак і грамадскіх паводзін. Нават калі адбудзецца іх жыццёвы бенефіс, у канцы чакае горкае расчараванне і забыццё.

Я ведаў людзей, чый Божы дар ператвараўся ў яечню.

Аднаго з іх, можна казаць, ведаю ўсё жыццё. З таго часу, калі ў музычнай школе, дзе прайшло колькі год дзяцінства, з'явіўся аднекуль з вёскі хлопчык з цымбаламі...

Як ён іграў на тых цымбалах!

У канцы 50-х — пачатку 60-х я сустракаў яго ў старой драўлянай хаце на Старажоўцы, дзе збіралася невялікая кампанія студэнцкай моладзі. Ён прыходзіў з гармонікам, іграў меладычныя кампазіцыі і спяваў свае цудоўныя песні на беларускія вершы...

Праз колькі год я сустрэў яго ля свайго дома. Ён, ужо знакаміты, учапіўся ў рукаў і доўга трос яго, расказваючы пра свае замежныя вандроўкі і нібыта здзіўляючыся сваёй знакамітасці: «Ці ж мог я калісьці падумаць, што мяне, простага беларускага хлопца, будуць ведаць у свеце?» — «Ты ж талент». — «Не, стары, не толькі талент. Гэта ўсё камсамол. Заходзь...»

Я зайшоў да яго праз некалькі гадоў. На шыкоўным раялі, амаль на ўвесь пакой, стаяў бюст Леніна. «Чаму не Чайкоўскага?» —пажартаваў я. — «Не смейся, — пакрыўдзіўся ён, — каб не Ленін, я б не стаў тым, кім стаў...» — «Каб не Герман», — папраўіў я. — «Герман?» — «Так, Герман, дырэктар нашай школы. Каб ён не знайшоў цябе, не выцягнуў з правінцыі, не прыняў у школу, куды шчаміліся дзеці рознага начальства...»

Апошні раз я сустрэў яго гады з тры таму, пранізліва марозным надвячоркам. З-за паднятага каўнера зашмальцаванай дублёнкі чуўся мярзотны пах спіртнога. «Вось, толькі з Алтая, з Зюганавым ездзіў... Каб не Зюганаў...» — «Ленін...» — «...каб не Зюганаў... Ведаеш, колькі грошай гатовы плаціць? А хутка ў Маскву, Лужкоў запрашае... Каб не Лужкоў...»

Так і бегаюць яны адзін за адным — былы Божы дар за былым камсамолам і былы камсамол за былым Божым дарам...

Такая вось фантасмагорыя, такая яечня...

# Руліць будзе Пятровіч

**Названы новы настаўнік** футбольнай зборнай.

«Юры Аляксандравіч, можа, давайце пачнём», — ці то папрасіў, ці то скамандаваў старшыня Беларускай федэрацыі футболу, віцэ-прэм'ер Сяргей Румас бізнэсмэну Юрыю Чыжу, які доўга не садзіўся за круглы стол, размаўляючы з кімсьці ў дзвярах памяшкання.

У футбольным музеі БФФ 8 снежня было шматлюдна. Яшчэ на павестцы дня стаяла пытанне пра новага трэнера зборнай. Ужо восьмага за час існавання нашай каманды. Мінулы — Бернд Штанге — вось ужо некалькі тыдняў на радзіме, у Нямеччыне.

На павестцы дня гэтае пытанне стаяла толькі трэцім, але ўлічваючы вялізную цікавасць, Румас прапанаваў зрабіць яго цэнтральным.

Журналісты бачылі Кандрацьева яшчэ пры ўваходзе ў Дом футболу. Таму чакаць сенсацыі не выпадала. Пасля таго як Георгій Пятровіч вывеў моладзевую зборную на Алімпіяду, яго кандыдатура стала ледзьве не адзінай, што рэальна абмяркоўвалася.

«Якія пытанні?» — звярнуўся Румас да сяброў выканкама БФФ пасля агалошвання прозвішча кандыдата. У адказ на гэта была толькі цішыня. «Прашу вас быць больш актыўнымі, хочацца, каб выказалі сваё меркаванне», — не супакойваўся жвавы віцэ-прэм'ер.

«Хацелася б пачуць адносна памочнікаў Кандрацьева», — пачуўся голас настаўніка БАТЭ Ганчарэнкі. «Неяк бедна», — раcстроена прамовіў Румас.

У выніку выканкам без праблем ухваліў кандыдатуру Кандрацьева як новага настаўніка. Нават Чыж не прагаласаваў супраць. Сам жа Пятровіч увайшоў у залу ў новым касцюме з гальштукам. Выглядаў ён трохі збянтэжана, узіраўся ў падлогу, няхаста глядзеў у вочы суразмоўцам.

«Я разумею, якая гэта нялёгкая праца. Буду рабіць усё, каб вас не падвесці», — адрапартаваў Кандрацьеў. Дапамагаць яму будуць Андрэй Сацункевіч, Вячаслаў Акшаеў («чалавек, блізкі па духу»).

На прэс-канферэнцыі адказы новага настаўніка былі кароткімі, часам словы даводзілася проста выдзіраць.

«Самы галоўны мінус — вельмі моцная група нам трапілася. Я шчыра веру, што з гэтымі хлопцамі можна вырашыць самыя высокія задачы. Хай не ў гэтым цыкле, дык у наступным».

Нагадаем, што ў адборачную групу да чэмпіянату свету-2014 беларусы трапілі з дзейнымі чэмпіёнамі свету і Еўропы Іспаніяй, а таксама Францыяй, Фінляндыяй і Грузіяй. «Калі б я сказаў, што мы ставім за мэту заняць першае ці другое месца ў гэтай групе, то вы б, напэўна, назвалі мяне шарлатанам».

Кантракт разлічаны на два адборачныя цыклы. Кандрацьеў не бачыць праблем у сумяшчэнні працы на пасадах настаўніка нацыянальнай і алімпійскай каманд. «Мы пакінем усё найлепшае, што было ў каманды Штанге. Напрыклад, абарону. Але ў атацы трэба гуляць больш агрэсіўна», — лічыць новы настаўнік.

Кандрацьеў заўсёды гуляў нападаючым, на вастрыні атакі. За сваю кар'еру ён нямала забіў. Цяпер задача перад ім яшчэ больш складаная — навучыць забіваць вучняў.

**Зміцер Панкавец**



Падчас прызначэння галоўным трэнерам Кандрацьеў (у цэнтры) адчуваў сябе крыху не ў сваёй талерцы.

**Георгій Кандрацьеў**

Нарадзіўся ў 1960 у Талачынскім раёне Віцебскай вобласці. Пачынаў выступленні за віцебскую «Дзвіну» (1978–79) і брэсцкае «Дынама» (лета-1981). У вышэйшай лізе чэмпіянату СССР гуляў за мінскае «Дынама» (1980–88), адэскі «Чарнаморац» (1989–90), маскоўскі «Лакаматыў» (1991), правёў 284 матчы, забіў 92 галы. У складзе мінчан быў чэмпіёнам (1982), бронзавым прызёрам (1983), фіналістам Кубка (1987), двойчы ўключаўся ў спіс 33 найлепшых футбалістаў (1985, 1987). Гуляў амаль да 40 гадоў. Як трэнер узначальваў мінскае «Дынама», «Смаргонь», «Віцебск», моладзевую зборную Беларусі, з якой заняў 3-е месца на чэмпіянаце Еўропы ў Даніі і вывеў каманду на Алімпійскія гульні.



Такім ён хлопцам быў. Георгій Кандрацьеў (у цэнтры) быў гразой супернікаў мінскага «Дынама».

**Трэнеры зборнай Беларусі**

- Міхаіл Вергеенка (1992 — 1994)
- Сяргей Бароўскі (1994 — 1996)
- Міхаіл Вергеенка (1997 — 1999)
- Сяргей Бароўскі (1999 — 2000)
- Эдуард Малафееў (2000 — 2003)
- Валеры Стральцоў (верасень 2002)
- Анатоль Байдачны (2003 — 2005)
- Юры Пунтус (2006 — 2007)
- Бернд Штанге (2007 — 2011)

**Цытата**

**Юрый Чыж: Жора разумее футбол толькі на інтуітыўным узроўні**

«Жора Кандрацьеў наогул рызыкуе ўсё жыццё прабыць другім. Бяда ў яго такая ж, як і ў многіх яго калегаў: не хоча вучыцца. Я яму кажу: «Вось табе грошы — едзь у Вышэйшую школу трэнераў». Якое там... Ён жа нават Інстытута фізкультуры не мог скончыць.

Я Жору прапаноўваў дапамагчы з аднаўленнем, але ён спрытнейшым аказаўся: «Саныч, я за дзве скрыні шампанскага сам усе пытанні вырашыў». Ён не разумее, што мне яго дыплом не патрэбны. Жора разумее футбол толькі на інтуітыўным узроўні. (...) Кандрацьеў можа сабраць дынамаўцаў і зладзіць паміж імі чэмпіянат. Хто больш за раз з усталяванай адлегласці патрапіць у перакладзіну. Ён трапляе восем, а гэтыя балбесы — па разе. Жора задаволены — будзе што расказаць прыяцелям у хвіліны сяброўскага застолля, але толку ад такой трэніроўкі ніякага. Ён жа не толькі паказваць, але і вучыць павінен. А тут у Жоры прабел. Няма спецыяльных ведаў».

**Юры Чыж, генеральны дырэктар «Дынама» (Мінск). Верасень 2003.**

## Пяць малавядомых фактаў з жыцця Георгія Кандрацьева

**№1. Курэнне**. Георгій Кандрацьеў — заўзяты курэц. Раней трэнерам можна было паліць на броўцы стадыёна, потым за такія паводзіны пачалі штрафаваць. «Кінуў курыць, — кажа Кандрацьеў. — Два тыдні ўжо як. Пакуль лёгка даецца». Калі яго запыталіся пра іншыя кепскія звычкі, то настаўнік адрэагаваў: «Давайце я з куравам спачатку разбяруся». Кажа, што матам лаецца на футбалістаў рэдка. А вось брамнік «маладзёжкі» Гутар кажа, што Пятровіч іх называе іранічна «інвалідамі».

**№2. Бамбардзір**. За савецкім часам Кандрацьеў забіў галоў болей, чым хто-небудзь з беларусаў. Цэлых 124 мячы. Прычым соты гол ён забіваў двойчы. Спачатку літоўскаму «Жальгірысу» (клуб зняўся з першынства і гол быў ануляваны), а потым валгаградскаму «Ротару». Прастаўляцца партнёрам даводзілася двойчы. У сярэдзіне 90-х ужо немалады Кандрацьеў удосталь пагарэзіў у ніжэйшых лігах Фінляндыі, дзе забіў амаль 70 галоў.

**№3. Нешматслоўны**. Кандрацьеў неадназначна ставіцца да працы журналістаў. «Чаму я да СМІ стаўлюся без асаблівага даверу? Тое, што прэса зрабіла з Юрай Курненіным пасля чэмпіянату Еўропы... Не магу даравацць. І, відаць, ніколі не дарую». Курненін быў трэнерам «маладзёжкі» на Еўра-2009. Каманда выступіла на ім няўдала. «Коўчу» дасталася порцыя крытыкі ў СМІ. Сэрца Курненіна не вытрымала паразаў, праз пару тыдняў пасля чэмпіянату ён памёр. Тым не менш, Кандрацьеў збіраецца мяняцца ў гэтым кірунку.

### Футбалісты і заўзятары па-добраму называюць Кандрацьева Шрэкам

**№4. Выхавацель**. З моладдзю даводзіцца быць не проста трэнерам, але і выхавацелем. «Пасля нейкай гульні іду па калідоры гатэля, а насустрач Букаткін з двума куфлямі піва. Ну, Бука вядомы аматар піва. Калі пасля гульні не вып'е, то дзень пражыты дарма». Піва ў футбаліста забраць давялося. Калі трэба, то і на дыскатэку Георгій з пацанамі сходзіць. «Здзівіў Пятровіч — выпісваў такія крэндзелі пад дыскатэчную музыку, што я дзіву даваўся. Адразу бачна, што ідзе ў нагу з часам», — прызнаваўся Павел Няхайчык.



**№5. Шрэк**. Футбалісты і заўзятары нярэдка паміж сабой па-добраму называюць Кандрацьева Шрэкам. Вялікі і лысы. Грозны на выгляд, але з добрым сэрцам.

**ЗП**

# «Забойства як і не было. А я сына пахавала…»

Месяц таму ў Слуцку **да смерці збілі** мужчыну.

Па афіцыйнай версіі Анатоль Елісееў памёр ад атрыманых удараў падчас бойкі. Родныя Анатоля не вераць следству і дабіваюцца, каб справу забрала Мінская абласная пракуратура.

### Тры тыдні не высыхала кроў

Галіна Елісеева — маці 36-гадовага Анатоля, якога знайшлі мёртвым 13 лістапада. Жанчына прыводзіць на месца здарэння — каля інтэрната спорткомплекса «Дэльфін». Паказвае на лужыну. Тут і знайшлі яе сына. Жанчына кажа, што тры тыдні кроў не сыходзіла ў зямлю — стаяла вось такой самай лужынай. Галіна Анатольеўна не стрымлівае слёз. Запальвае свечку і моліцца.

Аглядаюся. Гэты ўчастак добра праглядаецца з вуліцы Леніна — цэнтральнай вуліцы горада. Адлегласць да яе — каля сарака метраў. З аднаго боку стаіць інтэрнат, дзясяткі вокнаў якога выходзяць менавіта сюды. З другога — крама, на якой усталяваны дзве відэакамеры.

І ніхто нічога не бачыў і не чуў. Звярталіся ж і да запісаў камер. Выявілася, што менавіта ў гэты дзень праз нейкую няспраўнасць запіс не вёўся — стужка аказалася чыстай.

Знайшлі Анатоля падлеткі. Ён ляжаў на зямлі. Перавярнулі на спіну. Убачылі акрываўлены твар. Затым прыехала міліцыя.

Некаторыя случакі праводзяць паралель са справай, якая мела месца ў Слуцку ў 1967 годзе. Тады ў парку быў знойдзены мёртвым мясцовы жыхар. Як высветлілася, яго білі, а ўдар у жывот прывёў да таго, што адкрылася язва. Мужчына памёр. Пад падазрэнне трапілі загадчык аддзела культуры гарвыканкама і яго брат. Ход расследавання не агалошваўся. І гэта выклікала ў людзей насцярожанасць. Суд праходзіў пад пільнай увагай мясцовых жыхароў. Хаця зала суда і не магла змясціць усіх, людзі стаялі каля будынка. У першы дзень бацька забітага выступіў з адводам суддзі. Але яго хадайніцтва не задаволілі. Мужчына пакінуў залу. Случакі ўспрынялі суд як спробу апраўдаць абвінавачаных. На трэці дзень працэсу, 12 кастрычніка, было вырашана абвінавачаных вывезці ў Мінск. Са сталіцы прыехалі міліцыянты. Але іх было мала. Людзі пачалі бунтаваць. У выніку ў будынак суда кінулі некалькі бутэлек з бензінам. Згарэла суддзя, у бальніцы памёр міліцыянт. Абвінавачаных нібыта асудзілі ў іншым горадзе. Завадатараў беспарадкаў асудзілі таксама, двух з іх — на смяротнае пакаранне.



У Анатоля застаўся 15-гадовы сын.

### Званок у міліцыю

«Злачынства раскрытае», — паведаміў «НН» начальнік Слуцкага РАУСа Аляксей Стром. Затрыманы адзін чалавек. Справа распачата па частцы 3 артыкула 147 КК (наўмыснае прычыненне цяжкога цялеснага пашкоджання, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацярпелага). Караецца пазбаўленнем свабоды ад пяці да пятнаццаці гадоў.

Па словах Строма, канфлікт паміж мужчынамі адбыўся на глебе асабістай непрыязнасці. Загінуламу нанеслі «адзін альбо некалькі ўдараў» (гэта яшчэ павінна вызначыць экспертыза).

Стром адзначыў, што толькі пасля Новага года справу перададуць у пракуратуру для далейшага накіравання ў суд.

### Білі толькі па галаве

Родныя Анатоля не вераць у афіцыйную версію. І лічаць, што справа павінна быць заведзеная па артыкуле 139 — забойства. Тыя траўмы, што атрымаў яе сын, жанчына лічыць не чым іншым, як жорсткім мэтанакіраваным забойствам. На руках сына яна не ўбачыла ніякіх слядоў — значыць, не адбіваўся альбо проста не мог.

Маці сцвярджае, што ў Анатоля быў вырваны кадык, лопнулі вочы, быў раструшчаны чэрап, апухлыя счарнелыя вушы, костка пераносся прабіла мозг... Галіна Анатольеўна кажа, што справу адразу хацелі завесці такім чынам, нібыта яе сын памёр пасля падзення. І толькі прысутнасць на анатаміраванні сталічнага спецыяліста не дазволіла гэта зрабіць. Але на месцы вызначыць прычыну смерці не змаглі — накіравалі матэрыялы на экспертызу ў Мінск. Пакуль адказу не было.

Маці Анатоля пэўны час не прызнавалі пацярпелай. Толькі яе зварот у абласную пракуратуру вырашыў пытанне. Ёй надалі адпаведны статус 5 снежня. Тады і адбылася першая размова са следчым. Да гэтага да бацькоў ніхто не звяртаўся, іх не выклікалі ў міліцыю.

### Усё пачалося за дзень да смерці

Як расказала Галіна Елісеева, 12 лістапада Анатоля запрасілі ў інтэрнат спорткомплеса «Дэльфін» на дзень нараджэння. Праз штосьці там пачалася бойка. Мужчыну збілі пяцёра. На наступны дзень ён расказаў пра здарэнне старэйшаму брату Вадзіму. Разам паехалі ў інтэрнат разабрацца. Але як толькі зайшлі ў пакой, іх пачалі біць тыя ж пяцёра. А пасля выкінулі на калідор.

Браты вярнуліся дадому, дзе Анатоль заўважыў, што ў яго знік мабільнік. Вадзім паклікаў двух сяброў, і ўчатырох зноў паехалі ў інтэрнат. У пакоі былі толькі двое мужчын. Анатоль папрасіў вярнуць тэлефон. Тыя адмаўлялі, што ён у іх. Зноў завязалася бойка. Але ў выніку мабільнік аддалі. І браты адразу з'ехалі. Але па дарозе адзін з сяброў заўважыў, што ў яго знік дарагі гадзіннік. А ў Анатоля ў тэлефоне не аказалася сімак. Ужо ўдвух яны паехалі назад па свае рэчы. Думалі, што ў выпадку патасоўкі справяцца самі.

Уваходзілі ў інтэрнат разам. Калі сябар зайшоў у пакой, там было шмат міліцыянтаў (іх выклікалі суседзі). Ён пачаў патрабаваць, каб яму вярнулі гадзіннік. А пасля ўбачыў, што побач няма Анатоля. У гэты час, як выявілася, мужчыну вывелі на вуліцу і пачалі біць.

### Людзі ў цывільным

Крымінальная справа была заведзеная 16 лістапада. Галіна Анатольеўна не разумее, чаго чакалі тры дні. Калі ўжо трынаццатага быў затрыманы Андрэй Л., які ўсю віну ўзяў на сябе. Маўляў, ён біўся з Анатолем. Па словах жанчыны, у справе фігуруюць яшчэ двое невядомых мужчын. Жанчына не можа ўявіць, як невядомыя людзі маглі ўмяшацца ў бойку, калі б яна і была, паміж сынам і Андрэем. І лічыць, што Андрэй Л. ведае тых людзей, але з нейкай прычыны не называе.

**Сябрам не далі пашукаць сведак у інтэрнаце »**



Жыхары інтэрната нічога не бачылі.

Галіна Анатольеўна настойвала, каб затрымалі ўсіх пяцёх чалавек, што збівалі яе сына за дзень да смерці (іх прозвішчы вядомыя). І нібыта чатырох забіралі ў міліцыю. Але пасля людзі бачылі іх у інтэрнаце. Быў сярод іх і Андрэй Л.

Сябры Анатоля, кажа маці, паспрабавалі пасля яго смерці пашукаць у інтэрнаце сведак. Але ўжо на вахце да іх падышлі два міліцыянты і двое ў цывільным. Параілі сыходзіць. А для даходлівасці аднаго з мужчын ударылі ў жывот.

Галіна Анатольеўна спрабавала знайсці вахцёрку, якая працавала ў той вечар. Не змагла. У інтэрнаце сказалі, што яна больш там не працуе.

«У жыцці трэба, каб дзеці нас хавалі, а не мы іх, — з горам кажа жанчына. — Я хачу справядлівасці. За яго смерць павінен сесці той, хто вінаваты». Жанчына не верыць, што Андрэй Л. здзейсніў злачынства. Лічыць, што віну на сябе ён узяў не проста так. «Забойства як і не было. А я сына пахавала...»



Камеры відэаназірання ў той дзень чамусьці не працавалі.

### Сын-падлетак застаўся без бацькі

Анатоль збіраўся пайсці ў адпачынак. Хацеў да Новага года закончыць рамонт у хаце бацькоў...

Працаваў мужчына электрыкам шостага разраду на прадпрыемстве электрычных сетак у Слуцку. Па словах Галіны Анатольеўны, яму неаднаразова прапаноўвалі перайсці працаваць майстрам. Усё адмаўляўся — любіў сам рукамі працаваць. Яго на ПЭСе і Кулібіным называлі, бо ўсё мог зрабіць. Яго праца неаднаразова і адзначалася. Была грамата нават ад Міністэрства энергетыкі.

У Анатоля засталіся жонка і 15-гадовы сын.

**Сяргей Макарэвіч, Слуцк—Мінск**

## Сціісла

### Браты абрабавалі ў Навагрудку 60 кватэр

Два зводныя браты 1974 і 1986 гадоў нараджэння былі затрыманыя дзякуючы пільнасці жыхаркі старажытнага горада. Праходзячы вуліцай позна ўвечары, жанчына заўважыла ў акне першага паверха дома падазроных людзей і паведаміла ў міліцыю. Браты дзейнічалі ў Брэсцкай і Гродзенскай вобласці. Ад крадзяжу да крадзяжу маладыя людзі ўдасканальвалі сваё «майстэрства»: перасталі біць шкло, пачаўшы высвідроўваць палатно шклопакетаў, выкарыстоўвалі рацыі для сувязі, выбіралі кватэры, дзе доўгі час адсутнічалі гаспадары.

### Бабулю забілі за заўвагу

Труп 62-гадовай жанчыны з нажавымі раненнямі быў знойдзены ва ўласнай кватэры ў Мінску. Праваахоўнікі высветлілі, што за дзень да гэтага ў кватэру прыходзіў мужчына. На допыце ён паказаў, што ў красавіку ставіў бабулі новы шклопакет, а ў дзень забойства з уласнай ініцыятывы прыйшоў праверыць, ці ўсё з вокнамі ў парадку. Там у яго з гаспадыняй адбыўся канфлікт на бытавой глебе: яна нібыта зрабіла заўвагу за тое, што ён не зняў чаравікі і «натаптаў». Тады малады чалавек узяў нож і чатыры разы ўдарыў жанчыну.

**КМ**

# Пісьменнікі разбіраліся, дзе хаваецца д'ябал

**10 снежня ў Мінску адбыўся XVI з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

У краіне два пісьменніцкія саюзы — лаяльны ўладам Саюз пісьменнікаў Беларусі, якім кіруе генерал міліцыі Чаргінец, і незалежны Саюз беларускіх пісьменнікаў (СБП) — спадкаемца пісьменніцкай арганізацыі савецкіх часоў, у якой былі ўсе нашы класікі XX стагоддзя.

У з'ездзе незалежнага саюза бралі ўдзел каля 200 дэлегатаў. Адбываўся ён у мінскім Палацы мастацтваў. Шыкоўны Дом літаратара, збудаваны ў машэраўскія часы, — сярод стратаў арганізацыі за апошняе дзесяцігоддзе. Ён адышоў ва ўласнасць Адміністрацыі прэзідэнта.

Сярод старэйшых пісьменнікаў на з'езд прыйшлі Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Мікола Аўрамчык. Былі таксама Уладзімір Арлоў, паэт і экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў, прыязны да беларускай культуры пасол Швецыі Стэфан Эрыксан.

Ад 2002 арганізацыяй кіраваў Алесь Пашкевіч. На з'ездзе ён мо і без намёку зазначыў, што ўжо адбыў старшынёй два тэрміны і не хоча парушаць статут, ідучы на трэці. На пасаду новага старшыні рада СБП выставіла кандыдатуру празаіка Барыса Пятровіча. Іншых ахвотных «цягнуць гэты воз» не знайшлося.

З'езд адзначыўся і скандалам. З пісьменніцкай суполкі быў гучна выключаны Васіль Якавенка. Нагодай стаў яго артыкул «Дзе хаваецца д'ябал», надрукаваны ў газеце «Літаратура і мастацтва» неўзабаве пасля Плошчы-2010. Аўтар вінаваціў кіраўніцтва СБП у фальсіфікацыях, у тым ліку фінансавых. Таксама ён звярнуўся з адпаведнай скаргай у пракуратуру. Тая не знайшла парушэнняў у дзейнасці СБП. На просьбу Юрася Пацюпы Якавенку дазволілі выступіць. Але рашэнне аб выключэнні пакінулі ў сіле.

Паэт Славамір Адамовіч, выступаючы ў «Розныме», закрануў тэму найвастрэйшай літаратурнай дыскусіі апошняга часу, што разгарнулася вакол тэксту Альгерда Бахарэвіча «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі». У эсэ аўтар намаляваў вобраз Янкі Купалы, зламанага сістэмай. Нібы ў 1930-м Купала здрадзіў сабе і літаратуры, напісаўшы паэму «Над ракой Арэсай», якая славіла бальшавікоў. Мастак і пісьменнік Рыгор Сітніца звінаваціў Бахарэвіча ў «распраўе з нацыянальнай літаратурай».

Дыскусія выклікала жывое абмеркаванне ў інтэрнэце, але на з'ездзе ўяе вырашылі не заглыбляцца. «Скаргі трэба абмяркоўваць у працоўным парадку», — адзначыў Сяргей Законнікаў.

Можна меркаваць, што змены курсу арганізацыі за новым кіраўніком не адбудзецца. Барыс Пятровіч — блізкі таварыш экс-старшыні Алеся Пашкевіча.

**Аксана Рудовіч, СМ**



ЕЎРАРАДЫЁ

**Барыс Пятровіч**

Сапраўднае прозвішча — Сачанка. Нарадзіўся на поўдні Гомельшчыны, у вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна і належыць да роду, які даў некалькі пісьменнікаў (у прыватнасці, Барыса Сачанку). Барыс Пятровіч выйшаў з генерацыі «Тутэйшых», незалежніцкай суполкі 80-х. Доўгі час ён адпрацаваў у газеце «Літаратура і мастацтва» — у тым славутым «дахолдынгавым» «ЛіМе».

Цяпер Барыс Пятровіч — рэдактар незалежнага літаратурнага часопіса «Дзеяслоў».

## Цёмнае мінулае Каяна Лупакі і светлы вобраз Янкі Купалы

**З падачы Бахарэвіча разгарэлася літаратурная дыскусія.**

Герой мастацкага эсэ Альгерда Бахарэвіча Каян Лупака — «злеплены іншымі людзьмі са смалы і дзёгцю, скалочаны з драўляных страхаў, склеены са старых газецін». У паэме «Над ракой Арэсай» ён звыродлівымі рыфмамі ўслаўляе дзейнасць камунараў і іх начальніка — таварыша Модзіна: «Гэта таварыш Модзін падганяе Каяна Лупаку вечарамі і начамі: пішы хутчэй, пішы, пішы давай. І Каян піша. А пад раніцу яму сніцца лесвічны пралёт...»



Рыгор Сітніца

Тэкст Альгерда Бахарэвіча «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі» з'явіўся на яго блогу «Гамбургскі рахунак» на радыё «Свабода».

Такая інтэрпрэтацыя вобразу Купалы абразіла мастака і пісьменніка Рыгора Сітніцу. «Купала — нацыянальны геній, і трэба да яго як да нацыянальнага генія ставіцца», — кажа Сітніца. Прыклады іншага стаўлення ён называе «самазневажаннем»: «Бахарэвіч не ўлічвае, што ў той час да патыліцы паэта быў прыстаўлены рэвальвер чэкіста. Падобнае нацыянальнае хунвэйбінства трэба неяк м чынам спыняць».

Бахарэвіч лічыць, што спробы «неякім чынам спыняць» крытычнае асэнсаванне даробку беларускай культуры прыводзіць да таго, што ў людзей, здольных думаць, «знікае ўсялякая ахвота набліжацца да тэрыторыі пад назвай «Беларуская культура».

Падзяліліся і меркаванні інтэрнэт-супольнасці: адны раяць Бахарэвічу звярнуць увагу на «цудоўныя вершы Купалы, напісаныя ў 1930-я», а іншыя параўноўваюць ганіцеляў аўтара «Каяна Лупакі» з падлеткамі, «якія падсцераглі і збіваюць пасля спектакля акцёра, што добра сыграў паліцая».

Аналітык Ян Максімюк, які выступіў у палеміцы ў якасці «трэцяй сілы»: «Купала «заклаў» усю беларускую літаратуру оптам. Ён жа быў Купалам, яму аднаму лёсам было дадзенае права і, што значна важнейшае, магутны дар слова гаварыць ад імя народа. І ён сказаў у 1930-х жахлівае «так» бальшавікам...»

Такая дыскусія не першая — у 1998 годзе жарсці ў пісьменніцкай і чытацкай супольнасці выклікаў апублікаваны ў «ЛіМе» артыкул Сяргея Дубаўца «Ружовы туман». Аўтар ставіў пад сумнеў даробак беларускай літаратуры ў савецкі час.

Прыкра, канстатуе Максімюк, што «называем «хунвэйбінамі» тых, хто спрабуе разабрацца, што насамрэч сталася з беларускай літаратурай у 1930-х».

Замест гэтага ідзе спрэчка: зрынаць ідалаў ці ствараць?

**Сяргей Мікулевіч**



Альгерд Бахарэвіч

**Бахарэвіч выходзіць з Саюза пісьменнікаў**

Прычыну разрыву літаратар тлумачыць тым, што Саюз застаецца «савецкай арганізацыяй». У сваім блогу Бахарэвіч прыводзіць тэкст заявы на імя старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыса Пятровіча. Ён папракае кіраўніка арганізацыі і яе раду ў тым, што яны ніяк не абаранілі яго пісьменніцкую годнасць, калі іншыя літаратары і крытыкі абрынуліся на яго з «хлуснёй».

**«Еўрарадыё»**

## Кулінковіч: «Я жудасна зняважаны»

**У мінскім Loft Cafe адбыўся канцэрт памяці рок-спявачкі Вольгі Самусік.**

Яна раптоўна памерла год таму. Выступілі яе сябры і гурты. Лідару «Нейра Дзюбеля» Аляксандру Кулінковічу, унесенаму ў «чорны спіс» музыкаў, спрабавалі перашкодзіць выступіць. «Мне ясна далі зразумець: калі я вырашу выйсці на сцэну без гурту, канцэрт можа не адбыцца, — цытуе Кулінковіча «Тузін Гітоў». — Вольга была маёй калегай і сяброўкай, а я нават слова пра яе не магу сказаць. Адчуваю сябе жудасна зняважаным». У выніку замест Кулінковіча і выступала «неідэнтыфікаваная асоба» ў майцы «Нейра Дзюбеля». Грошы ад продажу квіткоў музыкі перадалі сям'і Вольгі — на помнік.

**СМ**



## Сцісла

**$115 за песню «Ляпісаў»**

На расійскім інтэрнэт-аўкцыёне molotok.ru выстаўлены трыб'ют гурту «Песняры» — «Песнярок» 1997 года выпуску. Альбом прадавец ацаніў у 3500 расійскіх рублёў, што роўна $115. Такая высокая цана абумоўленая тым, што на трыб'юце ёсць рэдкі запіс «Ляпіса Трубяцкога» — перасяпяваная Міхалком песня «За полчаса до весны».

**«Касіў Ясь канюшыну» стаў хітом у Польшчы**

Ураджэнец Белаазёрска Генак Лёска ў чэрвені гэтага года выйграў польскі музычны конкурс «X Factor», а некалькі тыдняў таму выйшаў яго дыск «Hazardzista», які складаецца з 12 песняў. «Касіў Ясь канюшыну» (на польскай мове) — сярод іх.

**Крыстэн Сцюарт магла б набыць «Белтрансгаз»**

Як падлічыў амерыканскі часопіс Forbes, самай рэнтабельнай зоркай Галівуда стала Крыстэн Сцюарт, галоўная гераіня вампірскай сагі «Змярканне». За тры гады яна зарабіла 2,4 млрд даляраў. Дзіўна збудаваная сістэма каштоўнасцяў у сучасным свеце. Вытворцы ілюзій маюць звышпрыбыткі. Параўнаем: 50% акцый «Белтрансгаза» каштавалі 2,5 млрд даляраў. Гераіня галівудскага моладзевага серыялу, калі б трохі паднапружылася, мела б грошы, каб яго набыць.

**ЮУ, СМ**

# Прафесар Савіцкі заклікаў Пракаповіча адмовіцца ад звання «Герой Беларусі»

**Каб зняць дэвальвацыю з самага высокага ганаровага звання — Герой Беларусі,**

прапаную Вам асабіста здзейсніць сапраўды гераічны ўчынак.

«Герой Беларусі, ганаровае званне, найвышэйшая ступень адзнакі і дзяржаўная ўзнагарода за выключныя заслугі перад дзяржавай і грамадствам, звязаныя з подзвігам, здзейсненым у імя свабоды, незалежнасці і росквіту Рэспублікі Беларусь (Беларуская энцыклапедыя, т.5, стр. 193)».

Паважаны Пётр Пятровіч, ваша імя, ваша асоба ўжо ўвайшлі ў сучасную гісторыю Беларусі. Вы актыўна далучыліся, уліліся ў каманду першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, шмат гадоў былі кіраўніком Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Ваша карысная дзейнасць для народа будзе адэкватна ацэнена ў гісторыі Беларусі.

Вы адзін з першых уганараваны ў суверэннай Беларусі самым высокім званнем і ордэнам — Герой Беларусі. Магчыма, гэта вялікая трагедыя для Вас.

**Вы адчуеце пасля гэтага духоўны і фізічны ўздым »**

Так сталася, што вынікі Вашай тэарэтычнай і практычнай палітыкі сталі катастрофай для жыхароў Беларусі. Не буду прыводзіць Вашы афіцыйныя заявы, якія, адны праз некалькі дзён, другія праз два месяцы, аказаліся падманам. Вы кінулі народ у хаос. Разбураны валютны рынак.

Народ паверыў Вам і ўраду і ў гэтых умовах захоўваў у банках беларускія рублі. А ў выніку дэвальвацыі, па дадзеных вядомых эканамістаў, укладчыкі банкаў на рахунках у нацыянальнай валюце страцілі 1,3 мільярда даляраў. Банкі і дзяржава фактычна канфіскавалі большую частку зберажэнняў насельніцтва. Падарвана ў народа самае каштоўнае — давер нашай роднай дзяржаве.

Таму, паважаны Пётр Пятровіч, каб зняць дэвальвацыю з самага высокага ганаровага звання — Герой Беларусі — цяпер, сёння, а не перадаваць гэта нашым дзецям і ўнукам, — прапаную Вам асабіста здзейсніць сапраўды гераічны ўчынак — адмоўцеся ад гэтай узнагароды.

Перакананы, што Вы адчуеце пасля гэтага фізічны, інтэлектуальны і духоўны ўздым. Станеце моцным і здаровым, маральна ачышчаным.

**Мікола Савіцкі, прафесар, Мінск**

# Ганаруся, бо завуся беларусам

Верш у прозе. **Аляксандр Красоўскі.**

Ганаруся, бо завуся беларусам, ганаруся і губляюся, бо мяне ўжо даўно хочуць вынішчыць, бо я вялікая пагроза для статыстыкі і чыіхсьці мар.

Я не ведаю, што будзе ў наступны момант, замыкаюся на трыццаць тры замкі, перастаю існаваць у адзіноце, спяваю самотныя песні ў полі ды лесе, сярод людзей, чые сэрцы вельмі складана ўзрушыць. Поўнюся свядомасцю, бо прагну праўды існага, прагну моцы вольна дыхаць сасмяглым паветрам, у гэтай краіне са смакам камунізму.

Нагадай мне, Бацькаўшчына, як пяе салавей, крані маю душу яго жаласлівай песняй, бо я ачарсцвелы ад болю, нібы той пень... Абудзі ўва мне смагу агню, бо прагну гарэць, адкрываючы жыццё, цячы крыніцай жывое вады, ляцець, нібы арол у вышыні, напаўняючы існае святлом пазнання навакольнага сусвету... Ажыццявіць тое, на падабенства чаго быў створаны, адчуваючы кірунак майго паклікання, дасягаць сваіх мараў, углядаючыся ў кожнага з любоўю і павагай, быць сабой.

Крычаць аб праўдзе, дакранаючыся, узрушаць сэрцы, якія прагнуць журботнае песні салаўя ў глухой начы, перапаўняючы існае любоўю і прагненнем волі... Спяваць песню набліжэння світанку... Каб паверыў гаротны народ у тое, што ён ажыццяўляе сваю гісторыю, што толькі ён можа зрабіць сваё шчасце.

Каб ведаў кожны пра тое, што ён з'яўляецца цэнтрам Сусвету, не апускаючы рук, меў моц ператвараць думкі ў матэрыю... Верыў і змяняў наваколле, поўнае слёз і спадзяванняў.

**Ты цэнтр сусвету! »**

Я веру ў тое, што мой гаротны народ пераможа зло, не апусціць рук, не дасць страху валадарыць у нашым жыцці, не дасць моцы тым, хто сёння зневажае, пераконваючы, што мы проста скаціна.

Расплюшчы вочы, знайдзі праўду, змагайся за сябе, за жыццё, за тое, што сапраўды мае цану, за тое, што табе дадзена ад пачатку... і перамагай... Не вер у сваю слабасць і страх, бо ты цэнтр сусвету і адказны за тое, што адбываецца вакол цябе.

# «Затое рэальная зарплата паменшала»

**Падвышэнне заробкаў у БДУІР**, альбо Як з павелічэннем акладу змяншаецца рэальная зарплата

Хачу расказаць пра тое, як у Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (БДУІР) падвысілі заробкі з 1 кастрычніка.

Не сакрэт, што ў нас невысокія аклады. Да прыкладу, аклад прафесара — дзесьці каля 650 тыс. Таму заробак складаецца з прэмій, даплат, індэксацыі, матэрыяльнай дапамогі і інш. З 1 кастрычніка аклады былі павялічаны на 26%. Затое рэальная зарплата паменшала. Так, калі за верасень чысты заробак за паўстаўкі асістэнта (за выняткам «агародніных» 500 тыс.) склаў 833 тыс., то за кастрычнік налічана 633 тыс. Вось так у нас з падыманнем акладаў на 26% рэальная зарплата зменшылася на 24%.

**Максім, tut.by**

Тое самае сігналізуюць нашы чытачы з іншых установаў і прадпрыемстваў.

### Зарабляем мы мільёны — а жывём як на рублі

Дружна крочылі калонай  
І прыйшлі — адкуль пайшлі.  
Зарабляем мы мільёны,  
А жывём як на рублі.

Крык ірвецца із грудзей:  
— Не туды ён нас вядзе!

**Кнехт, Мінск**

# «Пенсіянеры адстойваюць доўгія чэргі, каб купіць малака»

У маім раёне (вуліца Народная ў Мінску, раён універмага «Беларусь») пенсіянеры адстойваюць доўгія чэргі зранку, каб купіць пакеты таннага малака.

Малако па 2300 за пакет завозяць малымі порцыямі, а вось такое самае малако за 5000-6000 можна купіць у любы час.

**Уладзімір Гвоздзь, Мінск**

# Сабака

У маіх бацькоў жыве сабака, **прыбіўся сам.**

Бяздомны дварняк. Жыве летам на вуліцы, ахоўвае дом, зімой у цяпліцы. Завуць Белка, пабач працоўныя называюць Званочкам. Як хто ідзе, адразу брэша. Неяк пабегла некуды, прыйшла праз тыдзень ледзь жывая. Відаць, трапіла пад машыну. Выжыць выжыла, але шчанюкоў у яе не было.

Днямі зноў некуды знікла, а вярнуўшыся, прынесла кацяня. Яна яго за шыю нясе — ён маўчыць, адпусціць — пішчыць. Прынесла на ганак. У хату мы звычайна жывёлаў не бярэм... Карацей, кормім, жыве або ў хляве, або ў цяпліцы... Напэўна, трэба зняць відэаролік пра тое, што некаторыя жывёлы лепшыя за людзей

**Васіль Ляшкевіч**

# Беларуская глыбіня. **Усмешка Васьковіча**

Піша **Павел Севярынец.**

*Бывала, усміхнуся ім —*  
*яны не вераць,*  
*і святла твару майго*  
*Яны не азмрочвалі.*  
*Ёў 29:24*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Яўгена Васьковіча ведаюць усе бабулькі ў раёне. «Наш Жэня!» Калі сябры БХД паўтара года таму абыходзілі бабруйскія вуліцы Мінскую ды Кастрычніцкую, мне самому стала цікава, чаму 21-гадовы беларускамоўны актывіст-пачатковец карыстаецца такой папулярнасцю сярод «электарата». Аказалася — элементарна, Ватсан: Яўген пры сустрэчы заўсёды ўсміхаецца і вітаецца нават з незнаёмымі — шырока, адкрыта і, галоўнае, шчыра.

Усмешлівы Яўген працаваў сабе журналістам у «Бабруйскім кур'еры», як хадэкі народны дэпутат збіраў подпісы за добраўпарадкаванне свайго раёна — і аднойчы быў жорстка збіты мясцовай міліцыяй падчас хакейнага матчу ў падтрыбунным памяшканні лядовага палаца за тое, што ўзняў бел-чырвона-белы сцяг.

Калі мяне ў Мінску вызвалялі ў зале суда для «хіміі», даведаўся, што Яўгена Васьковіча судзяць за напад на бабруйскую ўправу КДБ.

У ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 бабруйскія хлопцы ўтрох закідалі будынак раённага аддзела КДБ бутэлькамі з запальнай сумессю. Афіцыйныя страты склалі 253 тысячы беларускіх рублёў, але абвінавачванне заявіла: раз хацелі спаліць усё — лічым за шкоду кошт усёй канторы, 2 мільярды.

Доўга не мог уцяміць, як юны, абаяльны, усмешлівы каталік шпурляе кактэйль Молатава разам з анархістамі. Дастаць яно, канечне, дастала — але трэба разумець, што такі ўчынак раўнавартасны стрэлу «Аўроры». Гэта вайна, у тым ліку і з самім сабой.

У судзе Яўген Васьковіч трымаўся героем, па-каліноўску. Бел-чырвона-белая майка. Распраўленыя плечы. І, канечне, усмешка. «Маёй мэтай было запалохаць КДБ. Аб тым, што зрабіў, не шкадую. Я ліцвін, і мой святы абавязак — абараняць беларускія нацыянальныя каштоўнасці. За іх я памерці гатовы, бо жыццё кароткае, а Радзіма вечная. Жыве Беларусь!»

Сем гадоў узмоцненага рэжыму.

Адвакат, які ўпершыню наведваў Васьковіча ў турме, быў у шоку ад бадзёрага настрою схуднелага Яўгена. «Думаў, бравіруе, — прызнаецца ён пасля, — а потым гляджу, ён так жыве».

**Усміхаюся ўсім — і вязням, і канваірам »**

У адказ на пяць маіх дасланых лістоў дайшоў адзін. Затое які! «Усміхаюся ўсім — і вязням, і канваірам. І яны пачынаюць усміхацца ў адказ». Радкі проста праменяць. Я напрыканцы — лаціна: «З Богам да ўсяго гатовы». Першае, за што Васьковіч атрымаў карцар, — адмова аддаць канваірам Біблію.

Пішу Яўгену, што мы пераможам без гвалту — так, як гэта рабілі нашы продкі, суседзі, еўрапейцы, так, урэшце, як гэта зрабіў Ісус. Васьковічу даходзіць мой канверт, а ўсярэдзіне — чысты аркуш з надпісам: «Перапіска з Севярынцам забароненая».

Для тых, каму перапіску з Васьковічам яшчэ не забаранілі, ёсць адрас: 212011, Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.

Праваабаронцы размаўляюць пра Васьковіча неахвотна — сам прызнаўся ў гвалце. Але — парадокс: патрабаванне свабоды Васьковічу робіць нас саміх вольнымі, асуджэнне ці абыякавасць (маўляў, ведаў, на што ішоў) робіць нас рабамі гвалту, які чыніць рэжым.

Увогуле, свабода і гвалт несумяшчальныя. Вось чаму беларусы дамагліся незалежнасці не ў выніку збройных паўстанняў XIX стагоддзя, а пасля духовых і культурных адраджэнняў XX стагоддзя.

Зазвычай тыя, хто кідае бутэльку з агнём, закрываюць твар. Каб не пазналі і каб не бачылі злосці, ад якой перакошвае аблічча.

Яўген Васьковіч твару не хавае. Ён усміхаецца. І ўсмешка Васьковіча-Карнэгі робіць значна больш, чым запальны кактэйль Молатава-Васьковіча.

За парушэнне рэжыму ўтрымання Яўгену Васьковічу прызначылі 3 гады крытай турмы — паўгалоднай ізаляцыі і поўнай безабароннасці.

Але ён усміхаецца. Думаю, гэта сведчанне біблійных словаў: «Не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром» (Да Рымлянаў 12:21)

Трымайся, наш Жэня!

Мы верым. Мы можам. А значыць, мы пераможам — беларускім словам і добрай справай, воляй і надзеяй, усмешкай і любоўю. Так, як дзве тысячы гадоў таму перамог Сам Бог.

*Куплін*

# Рознакаляровая Беларусь

Пра Ганцавічы і Пінск піша **Сяргей Харэўскі**.



Дары Палесся.

### Арлы і гномікі

Дарога на Ганцавічы, роўная, як абрус, імчыць між гэткіх жа роўных палёў, па ўскрайках якіх паселі «аграгарадкі», з бэзавымі платамі, фісташкавымі кароўнікамі ды блакітнымі свінарнікамі.

Для тых, хто не бываў у Беларусі, наша краіна паўстае пярэстай і ярка афарбаванай. Памятаю, наш мастак Лёнік Тарасевіч не хаваў свайго захаплення ад знаёмства з беларускімі вёскамі: «Праўдзівы край шагалаўскі! Усё пафарбавана гэтак смела — жоўтым, сінім, зялёным!»

Ганцавічы, што паўсталі ў 1898 пры Палескай чыгунцы, пасля апошніх Дзён пісьменства выглядаюць аптымістычна. З’едлівыя мястачкоўцы кажуць, што зробленае за два месяцы праз два месяцы і аблезе... Але вітаюць вас у Ганцавічах арлы і гномікі, грыбочкі і львы, кветкі, складзеныя з пустой пластыкавай тары, і патрыятычныя бігборды.

Тут усё навюткае — крамы, вакзалы, царква ды касцёл. Шматкроць пафарбаваны, убраны ў пластык і бетонную плітку, гэты райцэнтр выглядае сёння як вялікі піянерлагер. Што праўда, з літаратурна-нацыянальным ухілам.

На цэнтральнай вуліцы адкрылі Алею пісьменства. На гранітных помніках-слупах прымацаваныя бронзавыя скруткі, на якіх чамусьці царкоўным сінадальным шрыфтам выведзеныя імёны тутэйшых класікаў.

Ганаровае месца ў гэтай алеі займае помнік Якубу Коласу, створаны, як і ўся алея, берасцейскімі скульптарамі. Колас і тут бываў! У 1902—1904 ён настаўнічаў у тутэйшай вёсцы Люсіна. Вось паэта і выявілі ў вобразе маладога настаўніка. Сугучна з назваю толькі што паноўленага насупраць кінатэатра «Маладосць».

Коласу прысвечаная і асобная экспазіцыя ў Ганцавіцкім краязнаўчым музеі. Добры музей, варты ўвагі.

### Да Каралевы Палесся

Дарога на Пінск ад Ганцавічаў таксама маляўнічая. Абапал дарогі разлягаюцца зарослыя лесам балоты. Палессе! Часам такі мокры лес, у вадзе якога стаяць векавыя дрэвы, падыходзіць проста да самае дарогі.

Як дарога пайшла ўжо Пінскім раёнам, то проста пры дарозе, у вёсцы з душэўнай назваю Дабраслаўка, можна пабачыць унікальны драўляны храм — Траецкую царкву. Яе пабудавалі тутэйшыя мажнаўладцы Друцкія-Любецкія яшчэ ў 1758. Пэўна, гэта самая вузкая з усіх беларускіх цэркваў. Шырыня апсіды складае ўсяго 3,4 м, асноўнага аб’ёму — ледзьве не 7 м.

Гэта дагледжаная доўгая і вузкая царква між старажытных дубоў глядзіцца надзвычай эфектна. Вакол яе з прыемнасцю можна пашпацыраваць. Наогул, у які бок ні выйдзі ў гэтай добрай вёсцы, дзе яшчэ захаваўся старасвецкі брук, паўсюль тут хораша.



Ганцавічы помніка Якубу Коласу дачакаліся, а вось Пінск ніяк.

Лагішын — класічнае беларускае мястэчка: брук у завулках, рынкавы пляц, колькі старасвецкіх камяніцаў, касцёл, царква, былая сінагога, адпаведна, трое могілак. Перадусім гэтае паселішча слаўнае цудадзейным абразом Маці Божай Лагішынскай, што завецца Каралевай Палесся.

Штогод 10 мая сюды збіраюцца тлумы вернікаў, каталікоў і праваслаўных з усяго Палесся. Цікава, што, нават трапіўшы ў касцёл, святы абраз не заўжды ўбачыш, бо ён схаваны за іншым абразом у алтары. Колькі ні бываў у Лагішыне — ніколі не заспяваў ксяндза ў касцёле. І каб усё ж пабачыць Каралеву Палесся, даводзіцца ісці ў плябань па ксяндза.

Яшчэ ў Лагішыне ёсць новы стадыён, дзе трэніруюцца «Лагішынскія ваўкі» — адна з самых вядомых нашых бейсбольных камандаў! А воўк спрадвеку ўпрыгожвае тутэйшы магдэбургскі герб.

### Пінская энцыклапедыя

За Лагішынам ужо і Пінск, слаўны сваімі помнікамі даўніны ды шыкоўнымі краявідамі над Прыпяццю і Пінаю. Ну як праміную старажытны касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, адкуль ліюцца гукі аргана, з вялізарным кляштарам францішканцаў, дзе цяпер ужо дзесяць гадоў як семінарыя?..

Варта зазірнуць і ў касцёл Карла Барамея, што колісь належаў каталіцкаму ордэну манахаў-камуністаў. Дарэчы, непадалёк ад яго — дом сям’і Вейцманаў, дзе жыў і Хаім, першы прэзідэнт Ізраіля. А насупраць у дварах — «канфедэрацкая» сінагога, адна з найстарэйшых у Пінску. Зрэшты, і тутэйшая «Каралінская сінагога» вартая ўвагі, бо ў ёй у 1939 адбыўся падпольны з’езд рабінаў Заходняй Украіны і Беларусі, які перадвызначыў шмат у чым далейшы лёс юдаізму ў СССР.

А сёння тут бывае госцем і Стыў Балмэр, генеральны дырэктар карпарацыі Microsoft, чые продкі адсюль родам. Імёны тых, хто нарадзіўся ў Пінску ці пад ім, ці чые бацькі адсюль родам, склалі б цэлую энцыклапедыю.

### Як адзначым Каласавіны?

Апроч апокрыфаў пра быццё тут Дуніна-Марцінкевіча, які ўнесмяроціў тутэйшую шляхту, але не дачакаўся ў Пінску ані помніка, ані нават якога бульварчыка свайго імя, тут дакладна жылі і працавалі Якуб Колас, Ісак Лур’е, Аляксандр Уласаў, Язэп Драздовіч. А педагагічны каледж чамусьці носіць імя Пушкіна. Ну чаму не настаўніка Коласа?

Мяняюць у горадзе беларускія шыльды з назвамі вуліц на расійскія. Зрэшты, гэта паўбяды. Давядзецца калі-небудзь здзіраць увесь гэты хлуд дашчэнту— Ленина и Интернациональная, Горького и 60-летия Октября, Суворова и Ленинградская...

Там-сям зеўраюць пустымі вачніцамі вокнаў старыя дамы. Нешта ўжо падрыхтавалі да зносу. Недзе яшчэ засталіся лапікі колішніх садоў-двароў на месцы каларытных старасвецкіх будынкаў.

Балюча глядзець на раскурочаны будынак былога рэальнага вучылішча, дзе перад першай вайною, ад 1912 да 1914, выкладаў Якуб Колас... У гэтым будынку малады тады паэт пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, тут працаваў над паэмамі «Сымон-музыка» ды «Новая зямля», набіраўся ўражанняў, што лягуць у аснову трылогіі «На ростанях». За савецкім часам на сцяне пабудовы была мемарыяльная дошка ў гонар пісьменніка. Але за цяперашняй уладаю яе садралі! Бо муляла вока?




Новы ўласнік будынка планаваў зрабіць там забаўляльны цэнтр з боўлінгам, кавярняй з барам, але высветлілася, што ў сутарэннях рабіць боўлінг нельга, бо надта блізка там грунтавыя воды, як і паўсюль тут. Так і давялі ўнікальны помнік да аварыйнага стану...

Больш як стагадовы дом Бялевічаў, у якім Колас жыў на вуліцы Вадаправоднай, захаваўся да нашых дзён няблага. Захаваліся сапраўдныя старыя дзверы, што былі ў тыя часы. У драўляным доме жывуць дзве вялікія сям’і, нашчадкі ўсё тых жа першых уладальнікаў. У савецкія часы тут ці не штогод рабілі рамонт.

Налета — 130 гадоў з дня нараджэння вялікага нашага песняра, сцвярджальніка нашае мовы. Ці зменіцца ў Пінску што да таго часу? Як адзначым тут Каласавіны?

Ад смурных думак хочацца да вады, дыхнуць паветрам з палескіх разлогаў. Хораша прайсціся берагамі Піны, занурыцца ў суплёт вулачак ды двароў. У любую пару ды пры любых уладах. Недзе на касцельнай званіцы бомкнуў звон. А над горадам, адбіваючыся ў зіхоткім люстры водаў, заззяў залаты захад. І золата сонечных апошніх промняў пакрысе спавіла імгла шарай гадзіны.

Сюды хочацца вяртацца зноў і зноў. Тут ёсць паветра. У Пінску хораша марыць.

## СПОРТ

### «Дынама-Мінск»—«Віцязь»: ізноў здароў

**20 снежня ў «Мінск-Арэне»** — матч КХЛ. «Дынама-Мінск» — «Віцязь (Чэхаў, Расія). Пачатак у 19.00. «Дынама» — адзін з лідараў КХЛ. Мінулы матч між камандамі на «Мінск-Арэне» 6 лістапада скончыўся мега-скандалам. У адказ на збіццё гульцоў «Дынама» тафгаямі гасцей беларускія заўзятары закідалі лёд і лаўку «Віцязя» пластыкавымі бутэлькамі. Некаторыя трапілі ў галаву трэнеру «Віцязя» Андрэю Назараву. У адказ той узяў клюшку і праз агароджу стаў пагражаць заўзятарам. Дэманстраваў трэнер і непрыстойныя жэсты мінскай публіцы. Потым у гатэлі мінская міліцыя «перакажала» яго выбачыцца перад заўзятарамі ў відэаінтэрв'ю. Апошнія матчы «Дынама» праходзяць з аншлагам. Таму пра квіткі трэба клапаціцца загадзя.

**22 снежня на «Мінск-Арэне»** «зубры» згуляюць з рыжскім «Дынама». **Пачатак а 19-й.** Білеты ад 24 тыс. да 198 тыс.

## КАНЦЭРТЫ

### Воплі Відаплясава

**14 снежня ў Палацы Рэспублікі** выступяць «Воплі Відаплясава» са спецыяльнай праграмай «Дзень нараджэння». **Пачатак а 19-й.**

### J:МОРС

**19 снежня ў Палацы спорту а 19-й** — канцэрт гурта «J:МОРС»

### На душы святло

**18 снежня а 19-й у Малой залі імя Рыгора Шырмы** — святочны канцэрт хора хлопчыкаў «Раство Хрыстова — на душы святло». **Пачатак а 19-й.**

### Зураб Саткілава

**15 снежня ў КЗ «Мінск» выступіць Зураб Саткілава** — знакаміты тэнар, саліст маскоўскага Вялікага тэатра, адзін з найлепшых інтэрпрэтатараў італьянскай опернай класікі. Пачатак а 19-й. Квіткі ад 90 да 410 тысяч.

### Пётра Клюеў

**17 снежня ў Палацы Рэспублікі** — канцэрт Пётры Клюева — хрысціянскага музыкі, які спявае па-беларуску і па-англійску. Спецыяльны госць канцэрта — Аляксандр Патліс (экс-«Новы Ерусалім»). Пачатак а 19-й.

### Бутусаў з «Ю-Піцерам»

**16 снежня ў КЗ «Мінск»** выступіць легендарны расійскі рок-музыка Вячаслаў Бутусаў. Фармальна канцэрт прысвечаны 10-годдзю яго гурта «Ю-Піцер», але ў праграме можна будзе пачуць і песні, напісаныя ў часы «Наўцілуса Пампіліўса» і нават хіты «Кіно» — з Бутусавым цяпер іграе Гаспаран, які раней працаваў з Віктарам Цоем. **Пачатак а 19-й.**

## ІМПРЭЗЫ




### Аўтограф-сесія Уладзіміра Цэслера

**15 снежня а 19-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37А)** адбудзецца аўтограф-сесія мастака Уладзіміра Цэслера. Нагода — выхад яго мастацкага альбома «Ё Цэсьлер»/Your Tsesler у серыі «Калекцыя пARTызана».

### Terra Nova

**Да 20 студзеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе III Мінскі міжнародны фестываль лічбавага мастацтва «Terra Nova». У праграме фестывалю — мастацкая выстава, відэапрагляды і канцэрты электроннай музыкі.

### Млын

**Ад 16 да 18 снежня ў НВЦ «БелЭкспа» (Янкі Купалы, 27)** працуе выстава-кірмаш народных промыслаў «Млын».

### Прэзентацыя рамана Ахроменкі

**17 снежня а 19-й у кнігарні «логвінаЎ» (пр.Незалежнасці, 37А)** адбудзецца прэзентацыя новага кінараманa-фарсу Уладзіслава Ахроменкі «Тэорыя змовы». Бяруць удзел: Уладзімір Някляеў, Ева Вежнавец, Алена Масла, Максім Клімковіч.

### Шоргат жукоў

**23 снежня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна (Гікалы, 4)** — прэзентацыя новай кнігі Змітра Вішнёва «Шоргат жукоў». **Пачатак а 19-й.**

## ВЫСТАВЫ

### Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска». Яна працягнецца да 8 студзеня.

### Прывітанне, калядны свет!

**Да 21 снежня ў Траецкім прадмесці** ў галерэі «Славутыя майстры» працуе выстава мастачкі па баціку Ірыны Саса «Прывітанне, калядны свет!»

### Я не самотны...

**Да 23 снежня ў Палацы мастацтва працуе выстава «Я не самотны...»**, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У выставе возьмуць удзел больш за сто беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

### Галаграфія-2011

**Да 1 снежня ў выставачнай зале Акадэміі навук** працуе Міжнародная выстава мастацкіх галаграм «Галаграфія-2011». Пад промнем святла ў «чорным квадраце» ажывуць аб'ёмныя партрэты людзей, шэдэўры Эрмітажа, старажытныя рэліквіі, фантастычныя краявіды і касмічныя караблі, «Тэрмінатар» і «Аватар»…

### Заплакалі струны жывыя

**Да 8 студзеня ў гістарычным музеі** працуе выстава «Заплакалі струны жывыя», на якой прадстаўленыя музычныя інструменты — вырабы сяброў Беларуска саюза майстроў народнай творчасці. На выставе свае творы прадставілі восем умельцаў.



### Мы народжаныя, каб жыць і ствараць

**Да 30 снежня ў гарадской галерэі Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** у рамках праграмы «Ацаленне праз мастацтва» працуе выстава твораў Паўла Рашчынскага «Мы народжаныя, каб жыць і ствараць».

Праграма скіраваная на дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу, сродкамі мастацтва.

### Сцежкі творчасці. Фрагменты

**Да 8 студзеня ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава фатографа Яўгена Казюлі «Сцежкі творчасці. Фрагменты». На ёй — даробак за больш чым пяцьдзясят гадоў у фатаграфіі.

## ТЭАТРЫ

### 14 снежня

**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

### 15 снежня

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 16 снежня

**Оперы і балета** — «Аіда»
**Лялек** — «Вянчанне»
**Беларускай драматургіі** — «Дарагая Алена Сяргееўна»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 17 снежня

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Беларускай драматургіі** — «Планета»

### 18 снежня

**Лялек** — Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

### 19 снежня

**Оперы і балета** — «Снягурка»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 20 снежня

**Оперы і балета** — гала-канцэрт зорак сусветнай оперы
**Беларускай драматургіі** — «Раман+Юлія»

### 21 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 22 снежня

**Купалаўскі** — «Зіма»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 23 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 24 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Асцярожна — свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

### 25 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Марозка»

## КІНО

### Вудзі Алэн з Парыжам

**Паўночны Парыж** (Midnight in Paris)
ЗША — Іспанія, 2011, каляровы, 94 хв.
**Рэжысёр:** Вудзі Алэн
**Жанр:** Рамантычна-фантастычная камедыя
**Адзнака:** 6 (з 10)

Амерыканскі пачатковец-пісьменнік адпачывае з нявестай у Парыжы, дзе рыхтуецца да вяселля. Герой — непапраўны рамантык, які хацеў бы жыць у 20-я гады. І аднойчы стары аўтамабіль завозіць яго ў мінулае — да Хемінгуэя і Фіцджэральда. Цяпер начамі амерыканец выпраўляецца ў Парыж 20-х, а днём разбіраецца з прагматычнай нявестай.

Фільм Вудзі Алэна — прызнанне ў любові да фантазіяў і мараў, непрактычнасці, вандровак пад даждом — і добрай літаратуры. Гэта замілаванне Парыжам, які натхняў мастакоў і пісьменнікаў, дасціпныя замалёўкі слынных характараў. І ў гэтай галерэі нават прэзідэнцкая жонка Карла Бруні — толькі сціплы й тактоўны гід.

Фільм з яго сентыментальнай атмасферай навучыць любіць сучаснасць. Стужка для непапраўных рамантыкаў. Катэгарычна не рэкамендуецца супрацоўнікам Цэнтравыбаркаму.

**Андрэй Расінскі**






### Святочная ялінка для беларускіх сем'яў

«Нашыя дзеткі» восьмы год запар ладзяць святочную ялінку для беларускіх сем'яў. Сёлета адбудзецца аж дзве імпрэзы.

**Першая ялінка — 17 снежня ў кавярні «Планета зорак»**, што ў Палацы моладзі на **Старавіленскім тракце, 41. Пачатак у 10.30.** Вялікіх і маленькіх гасцей чакае святочная праграма, навагоднія гульні і конкурсы, падарункі і пачастункі. Дзеткі з розных школ і гімназіяў пазнаёмяцца і пагуляюць разам.

Запісацца, прапанаваць дапамогу вы можаце па **тэл.: (029) 632-27-43 (Крысціна), skype: Kryscina, e-mail: n.dzietki@yahoo.com.**

**Дзве другія імпрэзы** адрасаваныя зусім маленькім: немаўлятам, дашкалятам. Яліначка адбудзецца **24 і 25 снежня ў кавярні THE LOFT (Петруся Броўкі, 22). Пачатак у 11.30.** «Нашыя дзеткі» і Bazart запрашаюць вас і вашую малечу за салодкі стол з Дзедам Марозам, поўзанне па дыванках.

Запісацца можна **па тэл.: (029) 911-78-87, (029) 784-63-13 (Наста), skype: Bazart_by, e-mail: Bazart@tut.by.**

# «Беларускі баяцца вялікіх грудзей»

Колькі гадоў можна «скінуць» пасля пластычнай аперацыі, ці маленькія грудзі ў беларусак і колькі каштуе павелічэнне розных частак цела? **Пра сённяшнюю пластычную хірургію «НН» расказаў Алег Стасевіч**, сакратар «Таварыства пластычнай, рэканструкцыйнай і эстэтычнай хірургіі».

**«Наша Ніва»: Наколькі пластычная хірургія папулярная ў Беларусі? Ці могуць простыя беларусы сабе гэта дазволіць?**

**Алег Стасевіч:** Да сакавіка 2011 года гэта было даступна амаль што ўсім. Напрыклад, адна пацыентка, якая павялічыла сабе грудзі, працавала кранаўшчыцай. Цяпер я думаю, што не ўсім. Хоць цэны ў валюце ў параўнанні з тым самым сакавіком сталі ніжэйшыя. Для беларусаў аперацыя стала ўдвая даражэйшай, а для замежнікаў — таннейшай. На сённяшні дзень працы менш не стала, але сярод пацыентаў беларусаў стала паменела.

**Адна з дакрызісных пацыентак працавала кранаўшчыцай.**

**«НН»: З якіх краінаў прыязджаюць кліенты?**

**АС:** З усяго свету, нават з Новай Зеландыі. У асноўным — Расія, Украіна, Германія, США, Ізраіль, Швейцарыя. Але як правіла гэта людзі беларускага паходжання, беларускі, што выйшлі за замежнікаў. Бракуе рэкламы Беларусі як краіны, інакшай замежных кліентаў магло б быць больш.

**«НН»: Ці ёсць у нашай краіне найноўшыя тэхналогіі ў галіне пластычнай хірургіі?**

**АС:** На сёння ў Беларусі даступна практычна ўсё. Калі яшчэ на пачатку года ў нас не было фракцыйных лазераў, то цяпер і яны ёсць. Сёлета цэнтры пластычнай хірургіі абсталяваліся вельмі добра.

**«НН»: Дзе, апроч сталіцы, можна наведаць пластычнага хірурга?**

**АС:** У любым абласным цэнтры, а таксама ў некаторых невялікіх гарадах. Напрыклад, ва Уздзе, у Оршы.

**«НН»: Якія аперацыі самыя папулярныя?**

**АС:** Першае месца з вялікім адрывам займаюць амалоджвальныя працэдуры. Гэта блефарапластыка (падцяжка павекаў), ін'екцыі ботаксу, лазерныя працэдуры, фэйс-ліфтынг, падцяжка скуры шыі, увядзенне пад скуру напаўняльнікаў, ліпафілінгі і гэтак далей. Усё гэта выкарыстоўваецца з мэтай падмануць час і публіку наконт свайго ўзросту.

**«НН»: Як вы асабіста ставіцеся да такога «падману» прыроды?**

**АС:** Гэта тэндэнцыя часу. Цяпер адным з сінонімаў прыгажосці з'яўляецца маладосць. Кажуць, малады — значыць прыгожы.

**«НН»: Ці азначае гэта, што ў першую чаргу да вас звяртаюцца публічныя асобы: вядомыя ведучыя, артысты?**

**АС:** Я б не сказаў, што гэта так. Доля «вядомых» асоб сярод пацыентаў такая ж, як і ў жыцці.

**«НН»: Колькі гадоў можна «скінуць» пасля аперацыі?**

**АС:** Усё залежыць ад асаблівасцяў канкрэтнай асобы: наяўнасці хранічных захворванняў, ужывання тытуню, што вельмі важна. Большасць людзей разумеюць шкоднасць тытуню толькі тады, калі сутыкаюцца з медыцынай, завязанай на жыццяздольнасці тканак. Ужыванне тытуню значна павялічвае колькасць ускладненняў пасля аперацыі і вельмі моцна ўплывае на канчатковы вынік. Людзі, якія ніколі не ўжывалі тытуню, лепш выглядаюць і да пластычнай хірургіі, і пасля яе. Цяжка адказаць, «наколькі я памаладзею». Часцей за ўсё пасля аперацыі людзі выглядаюць на свой век, але больш здаровымі, прывабнымі. Кшталту «неяк ты пасвяжэла, мая даражэнькая». І насамрэч такую мэту ставіць большасць нашых пацыентаў.

**На кармленне немаўляці імплантацыя не ўплывае.**

**«НН»: З якога ўзросту можна рабіць амалоджвальныя працэдуры?**

**АС:** Звычайна прыходзяць людзі ад 40 і старэйшыя. Хоць гэта залежыць ад сітуацыі. Напрыклад, было, што адносна малады чалавек моцна схуднеў, і ў яго адвісла скура. Самай старой маёй кліентцы было за 70 гадоў.

**«НН»: Колькі каштуе «маладосць»? Напрыклад, прыбраць зморшчыны ля вачэй?**

**АС:** Ад трох мільёнаў і больш. Кошт працэдуры фракцыйнага лазеру — каля мільёна рублёў (увесь курс уключае 6-7 працэдур).

**«НН»: Які працэнт няўдачы?**

**АС:** Кожны пластычны хірург мае пэўны працэнт добрых і няўдалых вынікаў. Калі гэта добры хірург — іх менш. Калі не вельмі дасведчаны ці не вельмі ахайны — больш. Працэнт няўдачы залежыць ад віду аперацыі. Для рынапластыкі (пластыка носа) гэта 10-12%, хірургіі малочнай залозы — 3-5%. Што да інтымнай пластыкі, то ўскладненняў амаль не бывае... Але на сёння пластычная хірургія, апроч медыцынскай галіны, яшчэ і бізнэс. Таму, па законе рынка, хірург, які зрабіў шмат ускладненняў, раней ці пазней з рынку знікне. Сам факт, што чалавек працуе і працуе за грошы, сведчыць, што ён здольны задаволіць густы і запатрабаванні канкрэтнага чалавека.

**«НН»: Якія іншыя працэдуры пластычнай хірургіі карыстаюцца попытам?**

**АС:** Павелічэнне грудзей, пластыка вушэй, носа, ліпасакцыя... Летась вельмі папулярнай сярод жанчын стала інтымная пластыка.

**«НН»: У гэтым годзе ў інтэрнэце з'явілася «Сусветная мапа памеру грудзей», паводле якой самыя маленькія грудзі ў Еўропе аказаліся ў беларусак. Вы згодныя з гэтым?**

**АС:** Я б сказаў, беларускі баяцца вялікіх грудзей. Для іх памер C ці D лічыцца вялікім. У заходняй хірургіі гэтыя памеры не лічацца вялікімі. Але цяпер у нас назіраецца тэндэнцыя павялічваць грудзі да больших аб'ёмаў.

**«НН»: З якога ўзросту можна павялічыць грудзі?**

**АС:** Па рэкамендацыях сусветнага прафесійнага аб'яднання пластычных хірургаў, такую аперацыю варта рабіць не раней за 21 год. Гэта не тычыцца жанчын, якія былі цяжарнымі, якія маюць нейкія псіхалагічныя комплексы ці адвоадчныя фізічныя недахопы (напрыклад, ярка выражаная асіметрыя грудзей). У такіх выпадках можам зрабіць аперацыю і больш маладым.

**«НН»: Ці можна карміць немаўля «штучнымі» грудзямі?**

**АС:** Можна. На кармленне аперацыя ніяк не ўплывае. Імплант размяшчаецца пад тканкай залозы, а не ўнутры яе.

**«НН»: Колькі каштуе такая аперацыя?**

**АС:** 8-12 мільёнаў плюс кошт імплантаў ад 7 да 16 мільёнаў за пару. Апроч павелічэння ёсць іншыя віды аперацый: падцяжка, змяншэнне грудзей, у тым ліку для мужчын.

**Аксана Рудовіч**



Алег Стасевіч.

**Людзі, якія ніколі не ўжывалі тытуню, лепш выглядаюць і да пластычнай хірургіі, і пасля яе.**

---

Адпачынак

## У Мінску адкрыўся дэльфінарый



**Танцамі дэльфінаў цяпер можна палюбавацца не выязджаючы з Беларусі.**

На тэрыторыі сталічнага заапарка адкрыўся першы дэльфінарый «Нема». У ім чатыры ціхаакіянскія дэльфіны, два паўночныя марскія коцікі і марское львяня.

Памяшканне можа змясціць 700 наведнікаў. Акрамя прадстаўленняў, якія плануецца праводзіць тры разы на дзень (акрамя панядзелка), за асобную плату ахвотныя змогуць сфатаграфавацца або паплаваць з дэльфінамі.

Прадстаўнік «Нема» чакае, што запатрабаванай таксама будзе паслуга дэльфінатэрапіі, якая рэкамендаваная дзецям з рознымі парушэннямі развіцця і паводзін (ДЦП, ранні дзіцячы аўтызм, сіндром дэфіцыту ўвагі і гіперактыўнасці, сіндром Дауна). Будаўніцтва ўкраінскай кампаніяй «Нерум» першага ў Мінску дэльфінарыя выклікала занепакоенасць экаактывістаў: ці будуць створаныя ўмовы для ўтрымання марскіх жывёлаў удалечыні ад мора?

**Паводле БелаПАН**

Тэхналогіі

## Прыйшоў інтэрнэт чацвёртага пакалення

Камерцыйная эксплуатацыя Yota пачнецца з лютага 2012 года.

Інтэрнэт-сувязь у краіне гатовая выйсці на новыя хуткасці. У Мінску і Гродне працягваецца тэставанне сеткі чацвёртага пакалення Yota, якая працуе па тэхналогіі LTE. Хуткасць перадачы дадзеных дасягне 40 Мбіт/с. Для параўнання, большасць беларусаў карыстаецца інтэрнэтам ад «Белтэлекама» з хуткасцю 1 Мбіт/с.

Камерцыйная эксплуатацыя новай сеткі пачнецца з 1 лютага 2012 года, а пакуль што паслугай можна карыстацца бясплатна. Пасля неабмежаваны доступ да сеціва будзе каштаваць 350 тысяч рублёў штомесяц. У любым выпадку давядзецца набыць спецыяльны мадэм за 1,28 млн рублёў.

Звышхуткасны інтэрнэт будзе працаваць у цэнтры гарадоў. Прыход Yota ў спальныя раёны не чакаецца, пакуль кампанія не атрымае дастатковую колькасць заявак ад насельніцтва.

**ЯМ**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Футбалістам барысаўскага БАТЭ ўручылі залатыя медалі за перамогу ў чэмпіянаце. Беларус з бразільскімі каранямі Рэнан Брэсан стаў найлепшым гульцом і бамбардзірам першынства. На ўзнагароджанне ён прыйшоў з жонкай Марыянай.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Зацьменне месяца можна было назіраць у Беларусі 10 снежня.**







**Карэспандэнтка баранавіцкай газеты «Intex-press» прайшлася па мясцовых крамах і сфатаграфавала цэннікі. Аказалася, што беларускія пятрушка і кроп каштуюць даражэй за прывезеную з Чылі фарэль.**



**Шакіра падстрыгла свае раскошныя валасы. Спявачка стрыглася ў Барселоне, амаль 6 гадзін салон прыгажосці Jordi Ripoll быў зачынены для наведнікаў.**

## Анекдоты

* * *

Дзяржаўныя сацыялагічныя службы выявілі, што 65% беларусаў вераць у Бога, 68% беларусаў давяраюць КДБ.

* * *

Пасля продажу «Белтрансгаза» з'явілася новая скарагаворка: «Мілер «Белтрансгаз» перайменаваў у «Газпрамтрансгаз».

* * *

— Скажыце, чаму ў вас фісташкі такія дарагія? Яны ж у вас чарвівыя.

— А чаго вы хацелі? Імпартныя фісташкі, ды яшчэ і з мясам, і танна?

* * *

Падчас гульні з БАТЭ брамнік «Барселоны» Хасэ Пінта сплёў сабе касу. Прычым зрабіў гэта седзячы на трыбуне.

* * *

У сувязі з глабальным пацяпленнем снежань пераназываецца ў брудзень.

* * *

Фальсіфікацыя прайшла нармальна. Галасаванняў падчас парушэнняў зафіксавана не было.

* * *

Заўважана, што калі працякае чайнік, то ён тушыць газ. Калі ж працякае электрычны чайнік, то ён тушыць святло.

* * *

На глухім палескім хутары памірае стары. Раздаецца грозны грукат у дзверы.

– Хто там? — пытаецца стары.

– Смерць, — гучыць з-за дзвярэй.

– Дзякуй Богу, — кажа стары. — Я думаў, КДБ...

## «НН» сто гадоў з вамі

**Гродна.** Нядаўна здарыўся тутака адзін выпадак: сын віцэ-губернатара Сталярова, вучанік шостай класы гімназіі, пасварыўся з таварышам вучнем чацвёртага класа рэальнай школы — сынам члена суда. Сварка трывала больш месяца. Ажно аднаго разу Сталяроў узяў нож і пайшоў на пляц, дзе гулялі вучні і ўбачыўшы свайго праціўніка кінуўся на яго і ўдарыў нажом. Хлопец хутка памёр.

**«НН». №50. 1911.**

**Ёсць справы, якія не могуць скончыцца поспехам.** Не лёс, не час. Місія Ганса-Георга Віка была адной з такіх. Нямецкі дыпламат скончае сваю працу трохі стомлены ад Беларусі і раздражнёны на яе. Беларусь таксама развітваецца з нямецкім разведчыкам крыху раздражнёная на яго і стомленая.

**«НН». №50. 2001.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам A2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7630. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.12.2011.
Замова № 5932.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11046